PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 38 (2262) Год XLIV Беласток 19 верасня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Аб'яднанне Беларусі

Яўген Міркановіч

17 верасня 1939 г. Чырвоная Армія перасякла межы II Рэчы Паспалітай і пачала займаць землі Заходняй Беларусі і Украіны. У некалькіх месцах дайшло да невялікіх сутычак з польскімі вайсковымі падраздзяленнямі. Найбольшая бітва на ўсходнім фронце, пад Гроднам, трывала паўтара дня. 22 верасня савецкае войска заняло Беласток і Берасце. Палітычная карта ўсходняй Еўропы была зноў зменена.

Уваход Чырвонай Арміі па-рознаму ўспрымаўся беларускім насельніцтвам усходніх ваяводстваў II Рэчы Паспалітай. Большасць палітыкаў, ад нацыяналістаў да камуністаў, прымалі гэты факт як пажаданы напрамак развіцця падзеяў у Еўропе. Для камуністаў гэта было вызваленне і надзея шчаслівага жыцця ў дзяржаве, якой чакалі і за якую змагаліся, сядзелі ў польскіх турмах і картузскім канцлагеры. Для нацыяналістаў быў гэта толькі пачатак дарогі да незалежнай Беларусі. Разлічвалі, што Беларусь пад уладай аднаго акупанта мела большы шанц на захаванне нацыянальнай і культурнай тоеснасці. Большасць нацыянальных дзеячаў уцякала ў нямецкую зону ўплываў, спадзеючыся, дарэчы, слушна, на хуткі пачатак новага канфлікту. Ніхто не верыў у трываласць нямецка-савецкага мірнага дагавору. Таму беларускія палітыкі рыхтаваліся да дзеянняў пасля чарговай змены палітычнай сітуацыі ва ўсходняй Еўропе.

У шматлікіх мясцовасцях уваход Чырвонай Арміі беларусы віталі хлебам і соллю. Адбывалася гэта асабліва там, дзе раней былі моцныя ўплывы камуністаў або там, дзе жыхары асабліва пацярпелі ад рэпрэсій польскай паліцыі і адміністрацыі. У некаторых раёнах аб'явілася нават нейкае прасавецкае падполле, здараліся выпадкі агрэсіўных выступленняў супраць памешчыкаў, настаўнікаў, чыноўнікаў. Невядома толькі наколькі былі яны спантанныя, а наколькі інспіраваныя савецкім бокам. Абагульняючы, аднак, увесь ход падзей, можна сказаць, што пераважная большасць беларускага насельніцтва паводзіла сябе вельмі пасіўна, чакаючы, якія паслядоўнасці прынясе змена дзяржаўнасці. Беларускія сяляне прывыклі, што кожная ўлада іх рабавала і прыніжала, таму з надзеяй чакалі змены свае сітуацыі пад савецкім панаваннем.

У выніку вайны восенню 1939 г. тэрыторыя БССР пабольшылася на звыш 100 тысяч квадратных кіламетраў і амаль 4,7 мільёна жыхароў. У складзе Савецкай Беларусі апынуліся таксама землі, якіх жыхарамі былі выключна палякі. Заходнія межы БССР вызначаліся аднак не паводле этнічных крытэрыяў, але згодна з тайным пратаколам савецка-нямецкага пагаднення аб зонах уплываў з верасня 1939 г. У сувязі з тым,

[праця́г ☞ 4]



Нашы людзі жылі ў згодзе з лесам ад вякоў...

## Мы рашуча супраць пашырэння парку

Аляксей Мароз

— Мы рашуча выказваемся супраць пашырэння парку на ўсю тэрыторыю Белавежскай пушчы ўжо ад 2000 года. Думаем, што пратэст самаўрадавых улад — дэмакратычна выбраных прадстаўнікоў мясцовага грамадства — будзе выслуханы ў Міністэрстве аховы асяроддзя, — кажа старшыня Саюза гмін Белавежскай пушчы, бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк.

31 жніўня ў Белавежы адбылася чарговая сустрэча Шматбаковай камісіі па справах распрацоўкі стратэгіі аховы Белавежскай пушчы, у час якой чыноўнікамі Міністэрства аховы асяроддзя быў прадстаўлены лакальным уладам праект пашырэння парку на ўсю тэрыторыю Белавежскай пушчы ўжо ад 1 студзеня 2000 года.

— Пашырэнне парку сілком нічым не абгрунтавана, бо лес дастаткова ахоўваецца леснікамі, жыхарамі і самаўрадамі. У нас будучыня ачышчальні сцёкаў, каналізацыі, перабудоўваюцца старыя кацельні, а гэта намнога большы ўклад, чым дапамога эколагаў. Трэба задумацца, што важнейшае: ці пашырэнне тэрыторыі парку, ці ахова пушчы. Калі ахова лесу, то трэба размаўляць з прадстаўнікамі Дзяржаўных лясоў, — тлумачыць бурмістр Анатоль Ахрыцюк. — Ідэі пашырэння парку людзі проста баяцца. Дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы мелі б тады абмежаваны доступ да сыравіны. Трэба было б ліквідаваць тры надлясніцтвы, у якіх працуе па 100 асоб. Людзі збіраюць грыбы, ягады і іншыя дары лесу, што дае ім неблагі прыбытак, асабліва важны ў найбяднейшых сем'ях. Нашы людзі жылі ў згодзе з лесам ад вякоў і не хочам абмежавання іх свабоды ахоўнікамі парку.

— Я супраць пашырэння парку таму, што стане яно прычынай паніжэння ўзроўню жыцця людзей і абмежавання доступу да драўніны, якой зараз масава карыстаецца наша грамадства для ацяплення дамоў. Вось прыклад: нядаўна парк пашыраны быў на 5 тысяч гектараў. З гэтай тэрыторыі прададзена было толькі 900 м$^3$ драўніны і людзі з наваколля Нараўкі мелі клопаты з апалам. Толькі пасля хадайніцтва ў дырэктара Белавежскага парку плошча высечкі была павялічана, — гаворыць старшыня Рады Гайнаўскага павета і войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч. — Я здзіўляюся, што чыноўнікі раптам пачалі так спяшацца з пашырэннем парку тлумачачы гэта каалацыйнай дамовай. Аб тым, што пушчу хочуць ахоўваць за кошт мясцовага грамадства можа сведчыць банкаўскі рахунак „Białowieża Forest", на які могуць уплачваць грошы ўсе прыхільнікі аховы Белавежскай пушчы. На працягу года з усёй Польшчы паступіла толькі 600 злотых. Створым групу, якая будзе хадайнічаць перад міністрам аховы асяроддзя Янам Шышкам аб непрыманні пастановы аб пашырэнні парку. Дрэнна, што за інвестыцыі, якія рэалізуем са сродкаў Кантракту для Белавежскай пушчы, грошы вяртаюць толькі тады, калі раней заплацім выканаўцам.

— Парк не павінен пашырацца зараз, але, скажам, праз гадоў пяць. За гэты час пабачым, як памагаюць нам заходнія экалагічныя арганізацыі, якія так многа гавораць аб яго павелічэнні. Трэба ж бачыць інтарэс мясцовых людзей, якім патрэбныя водаправоды і каналізацыя, іншая інфраструктура і новыя месцы працы. Ужо і зараз цяжка будзе

[праця́г ☞ 2]

## Усходні напрамак

У апошні дзень эканамічнага форуму ў Крыніцы падчас пленарнай сесіі адбыўся востры абмен слоў паміж паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктарам Бурскім і былым старшынёй парламента Беларусі Станіславам Шушкевічам. Амбасадар Бурскі — рэагуючы на выступленне Станіслава Шушкевіча на сесіі — сказаў, што ён не любіць сваёй Радзімы і ўвогуле з'яўляецца палякам.

[болей ☞ 3]

## Блакітная рэспубліка

З Гародні ў Гудзевічы ўсяго паўтары гадзіны язды на машыне. Раней дамаўляемся з дырэктарам Белакозам па тэлефоне. Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей знаходзіцца ў будынку старой школы. Першае сутыкненне з установай выклікае сумненне — ці мы добра папалі?

[рэпартаж ☞ 5]

## Фэст у Курашаве

Святкаванне пачалося багаслужбай. Святар Мікалай Грыгарук маліўся за працавітых земляробаў, якія сабралі плён са сваіх палеткаў. Пасля ў царкве адбылося пасвячэнне падрыхтаваных школьнай моладдзю дажынкавых вянкоў з Курашава, Збуча і Арэшкава.

[дажынкі ☞ 8]

## Як будаваўся беларускі ліцэй

Дыскусія ў ходзе сустрэчы членаў прэзідыума ПА БГКТ была даволі вострая. Куратар маўчаў. Старшыня Станкевіч падкрэсліў складанасць сітуацыі, якая амаль не давяла да кровапраліцця. Адзін з членаў прэзідыума заклікаў ваяводскія праваахоўныя ўлады збіць у Бельску парадак. Калі я папрасіў яго сесці, ён заявіў, што ў Беластоку напэўна ўжо ўсё вырашылі і старшыня з куратарам прыехалі сюды толькі дзеля таго, каб ад нас атрымаць адабрэнне. Скончыўшы выказванне, моцна ўсхваляваны, грукнуў дзвярыма і выйшаў.

[успамін ☞ 9]

## Новы помнік

У Бельску-Падляшскім на скверы пры вуліцы Міцкевіча ў ліпені мінулага года ўзведзены быў помнік для ўшанавання 80-й гадавіны Незалежнасці Польшчы (1918-1998). Сёлета з'явілася праблема з добраўпарадкаваннем пляца вакол манумента.

[ ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Навіны Радыё 101,2

**Пасол ЗША плануе вярнуцца ў Беларусь**

Як стала вядома інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, у Мінск вернецца пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард. Амерыканскі пасол адбыў з Беларусі на радзіму для кансультацый на няпэўны тэрмін у чэрвені 1998 г. разам з пасламі краін Заходняй Еўропы, пасля таго, як беларускія ўлады прапанавалі ім пакінуць свае рэзідэнцыі ў Драздах. Злучаныя Штаты працягвалі перамовы з беларускімі ўладамі па пытаннях кампенсацыі і месца размяшчэння новай рэзідэнцыі. За гэты перыяд Спекхард двойчы наведваў Мінск з тыднёвымі візітамі.

**Кіраўнік беларускага МЗС на Генасамблеі ААН**

Міністр замежных спраў Беларусі, віцэ-прэм'ер Урал Латыпаў возьме ўдзел у працы чарговай сэсіі Генеральнай Асамблеі ААН, якая 14 верасня распачнецца ў Нью-Йорку. На сённяшні дзень у МЗС Беларусі ёсць пацвярджэнне ад Харватыі і Кіпра аб жаданні міністраў замежных спраў гэтых краін сустрэцца з кіраўніком знешнепалітычнага ведамства Беларусі.

**Сустрэча з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі**

9 верасня прадстаўнік грамадскай ініцыятывы „Хартыя-97" у Брусэлі правёў афіцыйную сустрэчу з прэзідэнтам Дэлегацыі па пытаннях адносін з Украінай, Беларуссю і Малдовай Еўрапейскага парламента Янам Марынусам Віерсмам. Падчас сустрэчы спадар Віерсма быў падрабязна праінфармаваны пра палітычную сітуацыю ў Беларусі, а таксама пра маючыя адбыцца ў Мінску перамовы паміж прадстаўнікамі ўлады і апазіцыі. Ян Марынус Віерсма выказаў словы падтрымкі дэмакратычнаму руху Беларусі і гатовасць аказваць дапамогу. Папярэдне дамоўлена аб арганізацыі ў Еўрапейскім парламенце сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі. Плануецца, што ў сустрэчы, якая павінна адбыцца да канца 1999 года ў Брусэлі, возьмуць удзел кіраўнікі апазіцыйных палітычных партый, грамадскіх арганізацый і СМІ.

**Страйк на Крычаўскім заводзе гумавых вырабаў**

10 верасня адмовіліся прыступіць да працы рабочыя Крычаўскага завода гумавых вырабаў, што ў Магілеўскай вобласці. Першы раз крычаўляне збіраліся страйкаваць 26 жніўня. Энергетыкі з прычыны запазычанасці ў 40 мільярдаў рублёў адключылі падачу цяпла ў другі цэх клеенага абутку і людзі каля двух месяцаў былі практычна пазбаўлены працы. Тады на завод тэрмінова выязджаў першы намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама Дзмітрый Савіцкі. Пасля абяцання адміністрацыі пагасіць запазычанасць па заработнай плаце да 1 верасня рабочыя ад правядзення страйку адмовіліся. Аднак напрыканцы лета на заводзе гумавых вырабаў змянілася кіраўніцтва і абяцанні былога дырэктара страцілі сілу. Лідэры заводскай прафсаюзнай арганізацыі падтрымалі патрабаванні рабочых, аднак асудзілі іх удзел у страйку. *(10.09.1999 г.)*

## Фонд імені Генадзя Карпенкі

Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравала Міжнароднае грамадскае аб'яднанне імені Генадзя Карпенкі і Міжнародную грамадскую арганізацыю „Дабрачынны фонд імені Генадзя Карпенкі". Аб гэтым „Інтэрфаксу" ў чацвер [9 верасня — рэд.] заявіла жонка памерлага ў красавіку гэтага года вядомага беларускага палітычнага дзеяча Людміла Карпенка.

Сярод мэт, якія ставяць перад сабой новыя арганізацыі — садзеянне сацыяльна-эканамічным рэформам у Беларусі, устанаўленне карыснага іміджу Беларусі ў міжнародным грамадстве, дабрачыннасць, — сказала яна. Сярод заснавальнікаў абедзвюх арганізацый — паэт Ніл Гілевіч, палітыкі Станіслаў Багданкевіч і Сямён Домаш.

*www.open.by, 10.09.1999*

## Мяса па пашпарце

Сёння, каб у магазіне купіць мясныя прадукты (акрамя мяса, вяндліны і вэнджанай каўбасы) трэба паказаць пашпарт з прапіскай горада Слоніма або Слонімскага раёна. Такія „прагрэсіўныя" наваўвядзенні зроблены па загаду слонімскага гарвыканкама і ўступілі ў сілу з 16 жніўня. Па словах дырэктара аднаго з прадуктовых магазінаў горада, загад уведзены ў сувязі з масавым вывазам мяснои прадукцыі за межы краіны. Гэта яшчэ раз пацвярджае: купляем мы не многа, выраблярм мала.

**Вольга Шынкевіч**
*Газета Слонімская № 116*

## Мы рашуча супраць пашырэння парку

[1 ☞ *праця*г]

выкарыстаць бюджэтныя сродкі, якія можна скарыстаць толькі пры ўмове, што самаўрады даложаць да іх столькі ж уласных грошай. Сапраўдная дапамога была б тады, калі б дзяржаўнымі сродкамі можна было пакарыстацца без абумоўленасцей, — мяркуе войт гміны Дубічы-Царкоўныя Анатоль Паўлоўскі.

— 10 мільёнаў злотых прадбачаных сёлета на распрацоўку праграм аховы пушчы і планаў пашырэння парку выкінуты былі б у балота, калі б без заканчэння распрацоўкі гэтых праграм пашырыць парк. А на гэта ўсё ж пайшлі грошы нашых падаткаплацельшчыкаў. Перш за ўсё трэба будаваць экалагічную інфраструктуру, якая будзе спрыяць ахове лесу, што і робяць нашы самаўрады, а не ўводзіць забарону карыстання лесам, — кажа войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч.

Выказванні жыхароў прыпушчанскіх вёсак на тэму пашырэння тэрыторыі парку будзем друкаваць у наступных нумарах.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

## Беларусь выключылі з „цэнтра Еўропы"

**У Ялце праходзіла канферэнцыя кіраўнікаў дзяржаў Балта-Чарнаморскага рэгіёна. У ёй удзельнічалі прэзідэнты 22 краін, кіраўнікі Еўрапейскага Саюза, НАТО, СНД. Аляксандр Лукашэнка на саміт не прыехаў. Большасць удзельнікаў саміта выказаліся супраць яго прысутнасці.**

Афіцыйная пазіцыя Украіны заключаецца ў тым, што ў канферэнцыі прымаюць удзел кіраўнікі краін, якія ўваходзяць у састаў двух міжнародных арганізацый: чарнаморскай — ОЧЭС і балтыйскай — СГБМ. Паводле работніка пасольства Украіны ў Беларусі Васіля Георгіеўскага, „гэтая нарада будзе абмежавана удзельнікамі гэтых двух структур. Адсутнасць Беларусі звязана з тым, што яна не з'яўляецца членам ні аднай, ні другой арганізацыі і, магчыма, з жаданнем кіраўнікоў краін".

У 1997 годзе Аляксандр Лукашэнка прымаў удзел у аналагічным форуме, які тады праходзіў у Вільні. Традыцыйна ў саміце ўдзельнічаюць кіраўнікі Славакіі, Венгрыі і Чэхіі — дзяржаў, які не ўваходзяць нават у састаў Балта-Чарнаморскага рэгіёна. Але як растлумачылі ў прэс-службе МЗС Украіны, „гэтыя краіны даўно ўдзельнічаюць у рабоце, таму іх кіраўнікоў запрасілі".

Паколькі нам вядома, Аляксандр Лукашэнка спярша таксама атрымаў запрашэнне на саміт. І ўдзельніцтва ў ялцінскім саміце было ўключана ў рабочыя планы прэзідэнта. Аднак пазней высветлілася, што кіраўнікі большасці краін, якія ўдзельнічаюць у канферэнцыі, выступілі супраць запрашэння беларускага лідэра і накіравалі афіцыйны пратэст Леаніду Кучму. У выніку ўкраінскі прэзідэнт вымушаны быў выбіраць паміж зрывам міжнароднай канферэнцыі і пагаршэннем добрасуседскіх адносін з Беларуссю. Леанід Кучма выбраў другое.

Яшчэ на мінулым тыдні беларускае Міністэрства замежных спраў атрымала адкліканне запрашэння Аляксандра Лукашэнкі. У ім ветліва паведамлялася, што ялцінскі саміт мае вузкаспецыялізаваны характар, што на ім будуць абмяркоўвацца спецыфічныя пытанні эканамічных адносін краін Балта-Чарнаморскага рэгіёна і ўдзельнікаў блокаў СГБМ і ОЧЭС, што пытанні датычныя Беларусі закранацца не будуць... І таму, маўляў, беларускаму прэзідэнту гэтая сустрэча будзе зусім нецікавай. Недабразычлівыя гавораць, што ў беларускім МЗС на працягу некалькіх дзён не маглі вырашыць, хто пойдзе дакладваць прэзідэнту аб адкліканні запрашэння.

Прычыны, на аснове якіх Аляксандру Лукашэнку адмовілі ў праве ўдзельніцтва ў ялцінскім саміце, відавочны. З аднаго боку, выявілася, безумоўна, дрэнная рэпутацыя беларускага прэзідэнта. Мала гэтага, што беларускі лідэр „не вельмі дэмакратычны кіраўнік", дык ён валодае яшчэ і дзіўнай здольнасцю прыцягваць да сябе ўсялякага роду скандалы. Дастаткова ўспомніць гісторыю з „віленскімі замахамі" на Лукашэнку або дэмарш зроблены ім у Кран-Мантана. А ялцінскі форум — саліднае эканамічнае мерапрыемства, на якім правіцыйны максімалізм і нястрыманасць Лукашэнкі выглядалі б проста недарэчна.

Але галоўная прычына — няпэўнасць статусу Аляксандра Лукашэнкі ў вачах кіраўнікоў еўрапейскіх краін пасля 20 ліпеня. Беларускі лідэр колькі хоча можа гаварыць аб тым, што гэтая дата не мае ніякага значэння, але зусім інакш думаюць кіраўнікі еўрапейскіх краін. Беларуская прэзідэнта даўно ўжо не запрашаюць на Захад, а цяпер і саму Беларусь быццам бы выключылі з Еўропы.

У беларускім МЗС каментаваць гэты скандал адмаўляюцца. На пытанне, з чым звязана адкліканне запрашэння на ялцінскі саміт, супрацоўнік прэс-службы МЗС адказаў: „Для прэсы ў нас няма ніякай інфармацыі".

**Андрэй Махоўскі**
*Белорусская деловая газета, № 636, 10.09.1999 г.*

## Два працэсы Юрыя Хадыкі

Адразу ў двух судовых працэсах прыйдзецца ўдзельнічаць намесніку старшыні Беларускага народнага фронту Юрыю Хадыку 13 верасня. Падчас пікета ў мінскім мікрарёне Малінаўка 3 верасня, у якім прымаў удзел і намеснік старшыні БНФ, супрацоўнікамі міліцыі былі яму ўручаны дзве павесткі: адна — за ўдзел у акцыях апазіцыі з нагоды заканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А. Лукашэнкі 21 ліпеня, другая — у Савецкі раённы суд Мінска для састаўлення пратакола аб адміністрацыйным правапрушэнні (за ўдзел у шэсці 27 ліпеня).

У той жа час Ю. Хадыка даведаўся, што 31 мая Савецкі райсуд аштрафаваў яго на 150 млн. рублёў. Хадыка асуджаны быў, як сцвярджае праваахоўны цэнтр „Вясна-96", толькі за тое, што прыйшоў паглядзець на мітынг Беларускай асацыяцыі маладых палітыкаў. Тады супрацоўнікі міліцыі яго сфатаграфавалі і на аснове гэтай фатаграфіі і судзілі. „Вясна-96" адзначае, што гэта не першы выпадак прыцягнення людзей да адміністрацыйнай адказнасці без іх прысутнасці. Праваабарончы цэнтр абскардзіў рашэнне Савецкага райсуда ў справе Ю. Хадыкі старшыні Мінскага гарадскога суда. Пры адмоўным адказе „Вясна-96" намерана звярнуцца ў Вярхоўны суд Беларусі.

**Юрый Аляксееў**
*www.open.by, 11.09.1999*

## Вучоныя абследавалі манастырскую ліпу

Нядаўна вучоныя Інстытута эксперыментальнай біялогіі Нацыянальнай акадэміі навук абследавалі векавую ліпу, якая расце ў двары Жыровіцкага манастыра.

Спецыялісты павінны былі паставіць дыягназ: ці даровая ліпа? Батанікі прыйшлі да вываду, што яе жыццяздольнасць задавальняючая. Аднак вялікая дуплаватасць дрэва выклікае трывогу. Таму спецыялісты прапануюць пламбіраваць дуплы і паставіць расцяжкі. Апрача таго вучоныя акрэслілі ўзрост манастырскай ліпы. Раней лічылася, што дрэва мае каля трохсот гадоў. На самай жа справе ліпа была пасаджана толькі два стагоддзі таму. Па гэтай прычыне меркаванні аб тым, што да яе пасадкі якое-небудзь дачыненне мае расійскі імператар Пётр І, зусім беспадстаўныя.

**Алег Точаны**
*Газета Слонімская, № 116*

Закончыўся IX Эканамічны форум Польшча-Усход „Крыніца '99"

# Усходні напрамак

Некалькі гадоў таму журналісты, акрэдытаваныя на Эканамічным форуме Польшча-Усход назвалі Крыніцу Давасам Усходняй Еўропы. І, несумненна, трапілі ў дзесятку, паколькі мала ў якім месцы можна сустрэць некалькіх прэзідэнтаў, прэм'ераў, з дзесятак міністраў ды ўплывовых бізнесменаў з Польшчы ды краін Усходняй Еўропы. Сёлетні форум адчыніў 2 верасня прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі, які падкрэсліў ролю сустрэч у Крыніцы, звярнуўшы ўвагу на іх значэнне не толькі ў польскім, але і рэгіянальным маштабе. А кіраўнік польскага ўрада Ежы Бузэк зазначыў, што яму хацелася б, каб Польшча стала месцам, дзе адбываліся б перамовы паміж Усходам і Захадам, дадаўшы адначасова, што шлях Польшчы да эканамічных структур Заходняй Еўропы вядзе менавіта праз краіны-суседкі з усходу, праз аднаўленне і замацаванне эканамічных сувязей.

Кожны эканамічны форум у Крыніцы адбываецца пад акрэсленым лозунгам, „10 гадоў пасля пераменаў" — гэта сёлетні лозунг, вакол якога канцэнтраваліся дысукусіі, пленарныя пасяджэнні і тэматычныя сустрэчы. У іх ходзе удзельнікі форуму стараліся прааналізаваць прамежак часу з моманту грамадска-палітычных пераменаў у Польшчы 1989 года па сённяшні дзень, як з эканамічнага, так і палітычнага пункту гледжання. Вялікую ўвагу ўдзельнікі форуму звярталі на пытанне еўрапейскай інтэграцыі, паколькі некаторыя краіны-ўдзельніцы сустрэчы ў Крыніцы звязваюць будучыню з членствам у Еўрасаюзе — пра гэта, між іншым, гаварылі віцэ-прэм'еры Малдовы Нікалае Андронік ды Славаччыны Іван Міклаш. Аднак, усё ж такі, прадстаўнікі польскага ўрада пастаянна падкрэслівалі, як важнымі з'яўляюцца эканамічныя кантакты з краінамі Усходняй Еўропы ды іх далейшае развіццё. „Польшча будзе працягваць развіццё кантактаў у тым накірунку", — падкрэсліў міністр эканомікі Януш Штайнхоф. Аднак статыстычныя даныя не вельмі аптымістычныя: у першым паўгоддзі 1999 года экспарт у Расію паменшыўся на 27% у параўнанні з аналагічным перыядам папярэдняга года, ва Украіну — на 49%, калі ж гаварыць пра Казахстан і Беларусь — то аж да 70%. Тэма Беларусі закраналася не толькі ў эканамічным кантэксце, але — пасрэдна — і ў палітычным. Маршалак Сейма Рэчы Паспалітай Мацей Плажынскі сказаў журналістам на прэс-канферэнцыі, што палітычная сітуацыя ў Беларусі перашкаджае ў развіцці ўзаемных польска-беларускіх эканамічных стасункаў, дадаўшы, што Польшча не ўспрымае Адяксандра Лукашэнку ў якасці раўнапраўнага партнёра, а польскі парламент — у якасці адзінага легітымнага органа Рэспублікі Беларусь успрымае Вярхоўны Савет 13-га склікання на чале з Сямёнам Шарэцкім. Дарэчы, у апошні дзень форуму — 4 верасня — падчас ходу пленарнай сесіі адбыўся востры абмен слоў паміж паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктарам Бурскім і былым старшынёй парламента Беларусі Станіславам Шушкевічам. Амбасадар Бурскі — рэагуючы на выступленне Станіслава Шушкевіча на сесіі — сказаў, што той не любіць сваёй Радзімы і ўвогуле з'яўляецца палякам. „Любіць Беларусь — гэта значыць гаварыць праўду, а не падтрымліваць рэжым", — адказаў былы старшыня. Станіслаў Шушкевіч знаходзіўся на форуме ў якасці спецыяльна запрошанага госця.

У сваю чаргу прадстаўнік расійскай дэлегацыі, дырэктар дэпартамента эканамічнага супрацоўніцтва з краінамі Еўропы і Паўночнай Амерыкі Міністэрства гандлю Мікалай Захматаў зазначыў, што прычына пагаршэння польска-расійскіх эканамічных адносін знаходзіцца на польскім баку. „Абмежаванне Польшчай імпарту расійскага каменнага вугалю негатыўна адгукнецца на польскім экспарце сельскагаспадарчай прадукцыі ў Расію. Эфектам гэтага будзе памяншэнне тавараабароту", — перасцерагаў Захматаў.

Цяжка пералічыць усе семінары ды пленарныя пасяджэнні, якіх было мноства. Пад канец кожнага дня, вечарам, адбываўся банкет, ролю якога ў замацаванні эканамічных кантактаў падкрэслівалі многія ўдзельнікі. Марэк Бэлька — былы міністр фінансаў Польшчы, а цяпер радца прэзідэнта зазначыў, што менавіта свабодная атмасфера банкетаў спрыяе інтэнсіфікацыі эканамічнага супрацоўніцтва. „У такой сітуацыі могуць сустрэцца старыя знаёмыя, якія пастаянна ўдзельнічаюць у форуме, паразмаўляць, задумацца, ці варта заснаваць супольны інтарэс", — сказаў Марэк Бэлька. Падобную думку выказаў таксама на прэс-канферэнцыі Мацей Плажынскі.

Падчас сёлетняга эканамічнага форуму першы раз адбываліся прэзентацыі паасобных краін. Дэлегацыя Беларускага саюза прадпрымальнікаў таксама арганізавала прэзентацыю сваёй краіны. Многія госці былі захоплены беларускімі песнямі і музыкай у выкананні гурту „СТУДЫЯ-ЛАД" з Брэста. Варта ўспомніць, што акрамя выступлення гурту, многія госці былі захоплены крышталічна-чыстым смакам беларускай гарэлкі і натуральным, шакаладным смакам беларускіх цукеркаў. У Крыніцу прыехала даволі немалая група беларускіх бізнесменаў на чале са старшынёй Беларускага саюза прадпрымальнікаў Уладзімірам Карагіным, якая прадстаўляла разнастайныя галіны прамысловасці. Была таксама ўрадавая дэлегацыя Беларусі на чале з віцэ-міністрам замежных спраў Валерыем Садохам, аднак прысутнасць віцэ-міністра на форуме не была пазітыўна ўспрынята (як мне ўдалося пачуць у кулуарах).

Форум суправаджалі выступленні гуртоў нацыянальных меншасцей з Польшчы, між іншым на адкрытым паветры выступіў гурт „Маланка" з Бельска-Падляшскага, які сабраў нямала гледачоў на галоўнай, пешай вуліцы Крыніцы — так званым „дэптаку".

Форум закончыўся ў суботу, 4 верасня, апошнія госці пачалі пакідаць Крыніцу ў нядзелю. Наступны адбудзецца праз год. Можна меркаваць, што павялічыцца прэстыж і значэнне гэтага мерапрыемства і тады параўнанне Крыніцы да Давасу будзе неактуальным, паколькі месцы сустрэчаў — Крыніца і Давас — будуць знаходзіцца на тым жа самым узроўні.

**Валеры САЎКО**
**Беларуская служба Польскага Радыё**

# На першым плане школа



*Пачатковая школа № 6 у гайнаўскім квартале Мазуры.*

У час X сесіі Рады Гайнаўскага павета, якая адбылася 3 верасня 1999 года, на першым плане пастаўлены былі справы школьніцтва, аховы здароўя, дарог і Саюза гмін Белавежскай пушчы.

У Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, які паўстаў на аснове Гайнаўскага белліцэя, прыйшло больш вучняў чым разлічвала дырэкцыя (154 асоб у ліцэй і 65 асоб у гімназію) і неабходным стала стварыць пяць аддзелаў першага класа ліцэя і два паралельныя класы гімназіі. Статут комплексу прадбачваў, што дырэктар можа арганізаваць вучобу толькі ў 3-4 першых класах ліцэя і 2-3 гімназіі, што абмяжоўвала ў гэтым годзе магчымасці пашырэння навучання беларускай мовы на ўсіх ахвотных. На просьбу дырэктара Комплексу Яўгена Сачко Управа Рады павета выступіла з просьбай увесці змены ў статут, якія ліквідавалі б колькасныя абмежаванні і давалі б магчымасць дырэкцыі пасля кансультацыі з Куратарыяй асветы, вырашаць аб колькасці класаў і вучняў. Радныя прапанову падтрымалі. Неадкладных пастаноў патрабавалі і іншыя пытанні, звязаныя са школай. Дырэкцыя Комплексу прафесійных школ прасіла дазволіць стварыць завочны ліцэй з гандлёвым профілем, у якім ахвотныя вучыцца прадаўшчыцы гайнаўскіх магазінаў, а дырэкцыя Комплексу лясных школ — лясны завочны тэхнікум для дарослых і лясную завочную школу для выпускнікоў ліцэяў. Усе гэтыя прашэнні былі Радай адобраны. Ставіліся таксама пытанні фінансавання асветы, паколькі ўтрыманне школ пагпынула ўжо 90% адведзеных на гэта бюджэтных сродкаў. Стараста Уладзімір Пятрочук інфармаваў, што недахоп сродкаў выкліканы абмежаваннем субвенцый на 25%, што рэальна абмяжоўвае выдаткі на ўтрыманне сярэдніх школ больш за 30%. Дадатковыя сродкі памерам у 50 тысяч злотых выдзелены Міністэрствам адукацыі толькі для Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў сувязі са стварэннем у ім гімназіі.

Аб зменах у ахове здароўя ў выніку яе рэфармавання інфармаваў радных намеснік дырэктара ЗОЗ Грыгорый Тамашук. Тлумачыў ён неабходнасць арандавання памяшканняў у бальніцы і асяродках здароўя на тэрыторыі павета для лекараў, якія хочуць працаваць самастойна на аснове кантрактаў з Падляшскай касай хворых. Хаця ў радных паявіліся сумненні наконт паляпшэння доступу да медыцынскай дапамогі, то ўсе просьбы лекараў былі адобраны. Радныя вырашылі таксама, што ўсе сродкі з павятовага Фонду аховы асяроддзя прызначаны будуць на мадэрнізацыю кацельні ў гайнаўскай бальніцы.

Рада павета аднагалосна вырашыла аб мэтазгоднасці ўдзелу ў Саюзе гмін Белавежскай пушчы на правах члена. У час дыскусіі паявілася прапанова перайменаваць арганізацыю ў Саюз самаўрадаў Белавежскай пушчы.

Прадстаўнікі Управы павета паведамілі, што ўжо ў 90% рэалізаваны інвестыцыі на дарогах, якія належаць павету. Закончана ўжо асфальтаванне дарог Дубічы-Царкоўныя — Тафілаўцы, Трывежа — Ласінка, Альхоўка — Семяноўка, Кляшчэлі — Палічна і частка вуліцы Ліповай у самой Гайнаўцы.

Аб паталагічных з'явах ў Гайнаўскім павеце інфармаваў радны Мікола Бушко. Паводле яго, трэба ліквідаваць продаж алкагольных напояў, якія ў вёскі прывозяць кантрабандысты з-за ўсходняй мяжы. Гэта выдатна павялічвае спажыванне алкаголю і спрыяе росту паталагічных з'яў. Гаварыў ён таксама пра арганізаваныя злачынныя групы, якія нападаюць на пажылых адзінокіх людзей, калі тыя атрымоўваюць пенсію. Стараста Уладзімір Пятрочук прапанаваў выступіць да каменданта паліцыі з просьбай большага кантролю і аховы жыхароў.

**Аляксей МАРОЗ**
*Фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА*

# Засядалі павятовыя радныя

31 жніўня г.г. прайшла чарговая сесія Рады Бельскага павета. У багатай павестцы дня асноўнымі пытаннямі былі кадравыя справы ды будова дарог.

Радныя прынялі пастановы аб аб'яўленні конкурсу на пасаду віцэ-дырэктара шпіталя і аб назначэнні дырэктарамі Комплексу спецыяльных школ Анджэя Валё і Комплексу сельскагаспадарчых школ — Мікалая Ленніка.

Пасля бурных спрэчак радныя ўхвалілі зварот да цэнтральных улад, у якім прапануецца пакінуць у законе аб кампетэнцыях уладных структур запіс аб перадачы ведамстваў па працаўладкаванні насельніцтва ў распараджэнне самаўрадаў. Радны Васіль Ляшчынскі звярнуў увагу на адсутнасць у Бельску арганізатара масавых спартыўных спаборніцтваў. Вядома, можна гэта апраўдваць нястачай грошай, сказаў ён, але для гэтай неабходнай мэты фінансавыя сродкі усё ж такі трэба выдзеліць.

Радныя абмеркавалі таксама план будовы і мадэрнізацыі дарог у будучым годзе, аднак з агаворкай, што яго ажыццяўленне будзе магчымае толькі тады, калі павет атрымае дарожную субвенцыю. У іншым выпадку многія работы на дарогах будуць замаруджвацца, цягнуцца нават па некалькі гадоў.

У той жа дзень засядала таксама Рада горада Бельска-Падляшскага. Некаторыя радныя і чыноўнікі павінны былі прысутнічаць на абодвух пасяджэннях. Па гэтай прычыне была вынесена прапанова, каб тэрміны сесіі Рады павета кансультаваць з войтамі і бурмістрамі.

На павятовай сесіі быў і арлянскі акцэнт. Радны Мікалай Кадлубоўскі выказаў сваю занепакоенасць сітуацыяй у арлянскім самаўрадзе ды падзяліўся ўражаннямі ад пабыўкі на сесіі Рады гміны ў Орлі месяц раней. На зале панавала цішыня — усе прынялі выступленне да ведама, паколькі павятовае староства не мае права прымаць у гэтай справе ніякіх мер.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Знішчэнне мовы

*(працяг; пачатак у 31 н-ры)*

**8. Асвета**

**а) царская русіфікацыя**

Чыя асвета, таго і мова. Гэтую даўнюю ісціну добра ведалі тыя грамадскія сілы, якія кіраваліся мэтаю выцяснення беларускай мовы з ужытку.

Яшчэ А. Цьвікевіч у сваёй кнізе „Западно-руссизм" (2-е выд. — Мінск 1993) звярнуў увагу на тое, што расійская палітыка ўвесь час падазрона ставілася да „Захаду" і змагалася супроць заходніх школьных уплываў на беларускую моладзь. У 1727 г. смаленскі архіепіскап Філафей скардзіўся ў Сьвяцейшы Сінод, што „смаленская шляхта пасылае сваіх дзяцей вучыцца ў лацінскія школы за літоўскі рубеж" (г.зн. у тую частку Беларусі, што захоўвала незалежнасць ад Расіі). Сінод паведамляў пра гэта Вярхоўны Тайны Савет, і 16 лютага 1728 г. быў напісаны „вышэйшы ўказ" Сіноду, каб „смаленскае шляхты дзяцей за рубеж ніяк не пушчаць і абвясціць гэтай шляхце, што калі яна сваіх дзяцей лацінскай і іншым мовам вучыць жадае, каб вучыла іх у расійскіх школах, паколькі гэтакіх школ у Маскве і Кіеве немалы лік".

Пазней Кацярына II выказвала сваім прадстаўнікам у Беларусі, пасля прыяднання наступнай за Смаленшчынай яе часткі да Расіі, сваё жаданне, каб між Беларуссю і Расіяй „знікла грань инородия" і каб „гэтыя старадаўнія абшары рускія зрабіліся рускімі не адным толькі імём, але душою і сэрцам".

Бліжэйшы супрацоўнік Кацярыны II украінец А. Незбародка лічыў, што „сяляне ў Літве і ў нас (у Расіі — В. Г.) адзіны язык і норавы ў суседстве маюць", што для таго, каб яны „абруселі і да далучэння прывыклі", трэба пасылаць туды для вярхоўнага кіраўніцтва „не руссапётаў і г.д.", а людзей паважных, ад дзейнасці якіх „выхадзіла б узаемная павага".

З мэтаю гэтага абрусення Кацярына II выдала палажэнне аб галоўных і малых народных вучылішчах у Полацкай і Магілёўскай губернях у 1789 г. „для народу, а не для шляхты". Вось чаму ў 1791 г. „малыя расійскія школы" былі адкрытыя ў Воршы, Копысі, Мсціслаўі, Чэрыкаве, Чавусах, а ў 1794 г. — у Віцебску.

Не заўсёды расійская ўлада прытрымлівалася падобнага прынцыпу. У першай і другой трэцях XIX ст. яна дазволіла распаўсюдзіцца ў Беларусі польскай асвеце, жадаючы знайсці ў паланізаваных магнатах і шляхце саюзнікаў, якія б лаяльна служылі дзяржаве. Паразуменне было часовым, і ўжо пасля паўстання 1831 г. на Беларусі апякун Віленскай навучальнай акругі граф Навасільцаў пісаў: „Надобно, начиная с университета, вводить преподавание на языке русском, ибо разность в языках всегда питает взаимную недоверчивость. Филологическое исследование язчка и даже его простое изучение пробуждают исторические воспоминания о некогда бывшей самостоятельности и независимости государства, семена беспрерывных мятежных усилий, а также чувств ненависти и зависти, что всё, совокупляясь вместе, рождает злые умыслы".

Справа карэнным вобразам змянілася ў ходзе тлумлення паўстання 1863 г. М. М. Мураўёвым-Вешальнікам. Апякун Віленскай навучальнай акругі ў ягоныя часы І. Карнілаў адкрыў дзесяць павятовых школ і некалькі соцень народных школ з настаўнікамі вялікаросамі. Гэтую практыку ўхваляў рэптыльны віленскі часопіс „Вестник Западной России". Ён выказаў у 1867 г. думку аб тым, што „народныя школы з'яўляюцца ў Заходнім краі самым магутным і паспяховым сродкам да ягонага абрусення. Асвета тутэйшага народу ў духу праваслаўнае веры і рускай народнасці прыводзіць да вынікаў верных і моцных. Расійская кніга, расійскія паняцці, што вынікаюць з гэтых кніг пад кіраўніцтвам расійскіх настаўнікаў павінны глыбока западаць у свядомасць мясцовага насельніцтва... Можна і павінна прызнаць, што цесная сувязь і грунтоўнае зліццё тутэйшага народу з народам вялікарускім падрыхтоўваецца ў нас тут галоўным чынам праз сістэму народнай асветы".

Рэдактар часопіса К. Гаворскі спадзяваўся, што „пры распаўсюджванні расійскай пісьменнасці беларусы натуральна і лёгка загавораць размоўнай расійскай мовай і з ахвотай выкінуць невялікі лік збеарушчаных польскіх слоў, якія і дагэтуль былі лішнімі".

Міністр асветы Расеі граф Дз. Талстой у1870 г. пісаў, што „канчатковаю мэтаю асветы ўсіх іншародцаў, што пражываюць у межах нашай бацькаўшчыны, несумненна, павінна быць **АБРУСЕННЕ** (падкрэслена мною — В. Г.)". Менавіта праз асвету ішоў галоўны накірунак удару па нашай мове.

У выніку падобнай палітыкі ў Беларусі ў 1914 г. было 4000 пачатковых школ (з іх палова — царкоўна-прыхадскія) — і ўсе на рускай мове навучання. І вось што цікава. У гісторыкаў БССР вядуцца спрэчкі наконт таго, ці была русіфікацыя Беларусі, ці яе не было (нібыта крыніцы не пацвярджаюць факту абрусення беларусаў). Так, напрыклад, П. Ц. Петрыкаў ставіць пад сумненне існаванне русіфікацыі як з'явы, а доказам чаму мае быць факт стварэння з Магілёўшчыны і Віцебшчыны Беларускага генерал-губернатарства. Па ягонным меркаванні „такія адносіны Расіі да Беларусі ніяк не назавеш «русіфікацыяй»" (нібыта прыведзены факт мае вялікае дачыненне да той палітыкі, якую праводзіла на самой справе ўлада).

Увядзенне рускай мовы ў выкладанні ў школах Беларусі П. Ц. Петрыкаў русіфікацыяй не лічыў таму, што нібыта беларускай „літаратурнай мовы на той час не было, як не мелася і беларускай інтэлігенцыі (...). Не было беларускіх настаўнікаў, падручнікаў, беларускіх выдавецтваў і іншых атрыбутаў нацыянальна-культурнага жыцця" (нібыта гэта перашкаджала царскай уладзе пры жаданні ўводзіць беларускую мову навучання — была б толькі ахвота!).

Далей ідзе дзіўны пасаж гісторыка: „Калі ўсё гэта было напрацавана Дуніным-Марцінкевічам, Багушэвічам, Цёткай, Купалам і Коласам (...), тады «русіфікацыя» ўступіла месца беларусізацыі". Узяла і ўступіла!

Тут робіцца вядомая ў логіцы памылка: „Пасля гэтага не значыць у выніку гэтага". П. Ц. Петрыкаў добра ведае, што беларусізацыя пачалася зусім не таму, што з'явілася беларуская літаратура, настаўнікі, падручнікі, выдавецтвы, а таму, што беларуская інтэлектуальная эліта гэтага **ПАТРАБАВАЛА**, але мела перашкоды з боку царызму. І толькі пад нямецкай акупацыяй у 1915 г. з'явіліся беларускія школы ў Заходняй Беларусі. А ва Усходняй Беларусі яны з'явіліся толькі пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспубліцы ва ўмовах той жа самай нямецкай акупацыі.

Так што беларусізацыя змяніла не „русіфікацыю" ў двукоссі, а сапраўдную русіфікацыю. І зусім не па тых прычынах, на якія спасылаецца П. Ц. Петрыкаў.

Больш блізкі да ісціны А. В. Залескі, калі ў адказ П. Ц. Петрыкаву ён нагадаў таму „агульнавядомае палажэнне пра тое, што ў апошнія стагоддзі заваёўнікі часцей за ўсё распаўсюджвалі дзяржаўны статус сваёй мовы на падпарадкаваныя ім новыя тэрыторыі".

А. В. Залескі ўказвае на яшчэ адно памылковае сцвярджэнне П. Ц. Петрыкава, нібыта ў XIX ст. не было беларускай літаратурнай мовы, прыгадваючы тое, што яна існавала ўжо ў XVI-XVIII ст., а ў пачатку XIX ст. склалася і новая беларуская літаратура.

А. В. Залескі прыгадвае вядомы факт, што „пры ўсім гэтым беларуская мова не дапускалася ў дзяржаўную сферу, не было беларускіх школ, хоць знайшліся б і настаўнікі, і маглі б быць складзеныя падручнікі".

Гэты аўтар лічыць нібыта сярод іншых „далучаных да Імперыі краін" русіфікацыя „найменш адмоўны ўплыў аказала на беларусаў". Пры гэтым не прыводзіцца, якою меркаю адмяралася аўтарам гэтага замячання ступень адмоўнасці (ці станоўчасці?) русіфікацыі беларусаў. Гэта, як з напоўненай да паловы вадкасцю шклянкай, як яе лічыць напаўпоўнай або напаўпарожняй?

Бо русіфікацыя бывае нібы праўда: або яна ёсць, або яе няма.

Напаўрусіфікацыі, як і напаўпраўды не бывае.

*(працяг будзе)*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Аб'яднанне Беларусі




*Беластоцкая вуліца (цяперашняя Ліповая) восенню 1939 г.*

[1 ☞ працяг]

што Сталін планаваў анексію Літвы і хацеў гэта зрабіць не выклікаючы пратэстаў з боку літоўцаў, раней абдараваў іх Віленшчынай, адрываючы яе ад БССР. Пасля такога рэгулявання межаў Савецкая Беларусь усё яшчэ налічвала звыш 10 мільёнаў жыхароў і 223 тысячы квадратных кіламетраў плошчы.

Пры канцы верасня 1939 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі ўзніклі Рэвалюцыйныя сялянскія камітэты, якія пачалі выступаць у ролі гаспадароў гмін, мястэчак, вёсак. Камітэты, аднак, хаця і былі рашуча прасавецкія, аднак прадстаўлялі выключна мясцовую грамадскасць. Кантроль за імі з боку НКУС і камуністаў прыбылых з усходу быў вельмі абмежаваны. Таму камандзіры Чырвонай Арміі атрымалі загад ствараць Часовыя праўленні, якія мелі стаць органамі лакальнай улады. У іх складзе былі афіцэры Чырвонай Арміі, супрацоўнікі НКУС, актывісты камуністычнай партыі і прадстаўнікі мясцовага насельніцтва — найчасцей былыя парабкі і малазямельныя сяляне. Гэтыя апошнія былі доказам, што савецкая ўлада прадстаўляе інтарэсы найбяднейшай часткі грамадства. Часовыя праўленні мелі ствараць Народную міліцыю і Рабочую гвардыю. Рэвалюцыйныя камітэты, міліцыя і гвардыя яшчэ ў верасні пачалі наводзіць савецкія парадкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Канфіскавалі і дзялілі паміж парабкаў і малазямельных сялян памешчыцкую зямлю, коней, кароў, свіней і іншую маёмасць. Большасць міліцыянераў і гвардзейцаў складалі яўрэі і беларусы. Маёмасць трацілі найчасцей палякі, таму што яны складалі грамадскую эліту на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Паводле бальшавіцкага заканадаўства некаторыя грамадскія групы не мелі ў Савецкім Саюзе ніякіх правоў. Палякі праследаваліся не таму, што былі палякамі, але таму, што былі памешчыкамі, чыноўнікамі „буржуазнай дзяржавы", паліцыянтамі. У гэтых грамадска-прафесійных праслойках беларусы амаль не выступалі. Трэба, аднак, заўважыць, што неўзабаве рэпрэсіі накіраваліся таксама супраць беларускай інтэлігенцыі і сялян, названых уладай кулакамі.

Восенню 1939 г. на тэрыторыі Заходняй Беларусі саветы правялі вялікую рэформу асветы. Школьніцтва было арганізавана паводле ўзораў, якія існавалі ў БССР. Паводле Камісарыята асветы, у заходніх акругах былі 5633 школы, у тым з беларускай мовай навучання — 4268, польскай — 923, рускай — 173, яўрэйскай — 150, літоўскай — 61, украінскай — 49. Беларускія школы ў сапраўднасці існавалі толькі на паперы. Вельмі хутка яны з-за прысланых з усходу настаўніцкіх кадраў пераўтвараліся ў расійскія. Па прычыне таго, што адукацыя стала бясплатнай і абавязковай, у савецкія школы восенню 1939 г. пайшло на 25 працэнтаў больш дзяцей чым у польскія год раней. Адукацыі, дарэчы, бальшавікі прысвячалі вялікую ўвагу. Школы, апрача традыцыйнай навукі, мелі фарміраваць у маладых людзей пераканання аб вышэйшасці камуністычных ідэалаў над капіталістычнымі. Дарэчы, паласканне дзіцячых мазгоў з'яўляецца неадлучнай прыкметай кожнай сучаснай адукацыйнай сістэмы. Некаторыя толькі робяць гэта больш нахабна чым другія. Бальшавікі безумоўна ў выхаванні на дэмагагічных лозунгах атрымалі вялікія дасягненні і хіба таму сталі ўзорам для сучасных дэмакратаў некаторых краін усходняй Еўропы.

Тэрытарыяльныя змены ва ўсходняй Еўропе, якія адбыліся ў верасні 1939 г. сталі надта трывалымі. З невялікай карэктурай перартывалі яны да сучаснасці. Найбольш на бальшавіцкай палітыцы скарыстала Літва, якая атрымала і асімілявала Віленшчыну, дзе раней літоўцы складалі толькі некалькі працэнтаў насельніцтва. Аб'яднаны былі, хаця пад савецкім панаваннем, большасць беларускіх і ўкраінскіх зямель. Сёння суверэнная і сябруючая з Польшчай Украіна, хаця і дэманстратыўна адкідае савецкую палітычную традыцыю, аднак 17 верасня ўшаноўвае як дзяржаўнае свята.

**Яўген Міранові**

# Блакітная рэспубліка

*(працяг; пачатак у 37 н-ры)*

**3. Святы Францішак Скарына**

Адкуль беларус, закаранелы абаронца нацыянальнага гонару, бярэ сілу?

1. Ад закаранеласці.
2. З космасу.
3. Ад спажывання крэмневай настойкі.

Каб паверыць у пералічаныя крыніцы моцы, мусова наведаць Алеся Белакоза з Гудзевіч, што на Мастоўшчыне, спыніцца ў яго Літаратурна-краязнаўчым музеі.

З Гародні ў Гудзевічы ўсяго паўтары гадзіны язды на машыне. Раней дамаўляемся з дырэктарам Белакозам па тэлефоне. Гудзевіцкі Літаратурна-краязнаўчы музей знаходзіцца ў будынку старой школы. Першае сутыкненне з установай выклікае сумненне — ці мы добра папалі? Нідзе па дарозе і нават у самых Гудзевічах мы не змаглі згледзець указальніка-рэкламы музея. Варта згадаць, што інфармацыя пра музей



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

і экспанаты выступае ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі. У вёсцы сустрэнеце адно манументальны ўказальнік, які нагадвае, што знаходзіцеся ў калгасе імя генерала Карбышава.

— Наша дзяржава бедная, ёй не пад сілу думаць пра музеі, — каментуе сціплае абсталяванне музея Алесь Белакоз.

Сапраўды, установа ўражвае сваёю прастатою і сціпласцю. З кожнага кутка спазірае на нас чалавечая ахвярнасць, саматужнасць. Канцылярыя з выслужанай мэбляй, ручныя друкавальныя машынкі, цалкам як у нашых колішніх бэгэкатоўскіх пакойчыках.

— Наша багацце — экспанаты, — кажа спадар Белакоз.

Каб дэталёва агледзець музей, трэба адвесці восем гадзін. Мы рашаемся на дзве-тры гадзіны. Ужо ў першай зале, дзе прэзентуюцца літаратурныя сувязі Мастоўшчыны, забываешся пра навакольны свет. Алесь Белакоз — інтэлектуал рэдкай пароды.

— Мы першыя „кананізавалі" Францішка Скарыну, — адзначае ля стэнда прысвечанага першадрукару Беларусі. Пашана і любоў для гэтага рэнесанснага гуманіста мяжуе тут з культам асобы.

— Я нават у хаце павесіў карціну Скарыны як ікону, — кажа наш субяседнік. — Прыстроіў яе вышываным ручніком і лампадкай. І як святар з кадзілам ходзіць, становіцца ля Скарыны і моліцца.

Ганаровае месца адведзена таксама нашым землякам — Кастусю Каліноўскаму з Мастаўлян і Сцяпану Пятэльскаму з Гарадка, вядомаму ў літаратуры як М. Арол. Гэты апошні спаўняе тут асаблівую ролю. Гаспадар прапануе нам угледзецца ў гордае аблічча М. Арла, якое выяўлена на бронзавым бюсце, а сам зачытвае твор „Сынам Беларусі". Для слабазарыентаваных у беларускай літаратуры паясняю, што гэты верш ёсць свайго роду бічом на адшчапенцаў, здраднікаў, рэнегатаў. Затым спадар Белакоз усведамляе нам, як складана быць госцем музея.

— Калі наведваюць нас важныя чыноўнікі, працаўнікі міністэрства, я заўсёды чытаю ім гэты верш. І прыглядаюся, якія ў іх перажыванні. Калі такі чыноўнік пачырванее, значыць — не зусім ён страчаны для беларускае справы.

Гудзевіцкі музей — шырокатэмны. Побач памяшканняў, адведзеных літаратурным матэрыялам, знаходзім залы жывапісу, народнага ткацтва, натуральнай медыцыны.

Надзвычай цікавай і ўнушальнай здалася мне літаратурная частка. На стэндах прэзентуюцца рукапісы, лісты, фатаграфіі, між іншым Ларысы Геніюш, Максіма Багдановіча, Францішка Багушэвіча, Зоські Верас, Максіма Гарэцкага, Уладзміра Дубоўкі, Янкі Брыля, Уладзіміра Караткевіча, Алеся Разанава, Максіма Танка, Івана Мележа, Васіля Быкава... Знаходзячыся тут, мімавольна адчуваеш жывы кровазварот беларускай пісьменнасці. Не хочацца верыць, што такія экспанаты раздабыў вясковы настаўнік з вучнямі.

А ўсё пачалося ад сямейнай закаранеласці.

— Любоў і веру ў Беларусь дала мне сястра — настаўніца беларускай мовы, Вера Мікалаеўна.

Чаму пачаў ствараць музей у Гудзевічах? Тут нарадзіўся, тут працаваў настаўнікам роднай мовы. У 1965 годзе паехаў у Мінск на курсы для настаўнікаў. Там зразумеў, што міністэрства асветы і камуністычная партыя ставяць сабе за задачу знішчэнне Беларусі, народа, яго мовы.

— І мне хацелая неяк бараніцца. І пачалі мы з дзеткамі пісаць вершы, апавяданні, збіраць матэрыялы для музея. Выдалі рукапісны альманах „Праменьчык" у трох экземплярах. Пачатак быў цяжкі. Нават мама мне казала: „Ну што ты надумаўся? Нідзе ж няма ў вёсках музеяў. Тым больш, каб нарадзіўся тут хто вядомы..."

Алесь Белакоз ведаў, што Мастоўшчына скрывае літаратурнае багацце. У самых жа Гудзевічах вучылася Ларыса Геніюш, тут у надалёкай Струзе настаўнічаў М. Арол. Адсюль родам паэт Міхась Машара. Таму заўзята перадольваў усялякія складанасці, працаваў па начах, у выхадныя дні, па нядзелях. Усё саматужнай працай, з дапамогай адданых сабе дзетак. Камуністы хутка раскусілі яго памкненні. Загадалі раскінуць антысавецкі музей. Алесь Белакоз прыгадвае, як завёў тады ў музей дырэктара і некалькі гадзін даказваў, што ўсе мясцовыя паэты былі падпольшчыкамі-камсамольцамі. Што кніжкі пра Кастуся Каліноўскага друкаваліся ў Маскве. Што іхняя школа існуе дзякуючы савецкай уладзе. І музей уцалеў, хаця той дырэктар страціў пасаду, бо заступіўся за Алеся Белакоза.

Нярэдка існаванне музея выратоўвалі цудадзейныя здарэнні.



*Побач музея знаходзіцца скансэн — сялянская хатка.* Фота Лены ГЛАГОЎСКАЙ

У сярэдзіне сямідзесятых загадалі музею зняць стэнд пра Ларысу Геніюш. За тое, што паэтка не прымала савецкага грамадзянства. „Яна ж вучылася ў нашай школе, прычым тут грамадзянства! У нас літаратурна-краязнаўчы музей!" — не адступаўся Алесь Белакоз. Улады быццам і не чулі яго аргументаў. „Снять — и всё!" — загадалі.

І вось у той час паляцеў у космас Пятро Клімук.

— Нашы дзяўчаткі за ноч сатказалі гальштук. Раніцай панеслі яго на пошту, выслалі касманаўту-земляку. Як толькі той вярнуўся з космасу, жонка ўручыла яму наш гальштук, — прыгадвае спадар Белакоз.

Жэст гудзевіцкіх энтузіястаў вельмі расчуліў касманаўта. Некалькі дзён пазней у музей прыйшла незвычайная карэспандэнцыя. Побач фатаграфіі беларуса-касманаўта была кніжка Ларысы Геніюш. Клімук зняў быў гэту кніжку са сваёй паліцы і там, дзе надрукаваны верш „Гудзевічы" напісаў: *Сябрам гудзевіцкага музея — з найлепшымі пажаданнямі Пётр Клімук. 6.08.1975 г.* Пра здарэнне даведаліся прэса, тэлебачанне, радыё.

— І нам ужо не наказвалі прыбіраць стэнд, — заключае першую касмічную гісторыю наш субяседнік.

Зараз побач Ларысы Геніюш фатаграфія Пятра Клімука і Уладзіміра Кавалёнка. Як прадчувае чытач, касмічнае здарэнне мела свой працяг. Калі паляцеў у космас У. Кавалёнак, Ларыса Геніюш напісала верш. Яна прыслала твор у двух экземплярах. Адзін падпісала музею, другі даручыла выслаць касманаўту. Кавалёнак таксама расчуліўся. *Ребята, я к вам приеду,* — пісаў ён у лісце гудзевіцкім самадзейнікам. — *Я привезу вам всё, что найду в Звёздном городке.*

— І ведаеце, — прызнаецца Алесь Белакоз, — мы напужаліся. Падумалі, навязе экспанатаў і райком партыі прымусіць рабіць музей касманаўтаў! Таму больш не пісалі Кавалёнку.

Але Кавалёнак памятаў пра Гудзевічы. Калі зноў паляцеў у космас, даслаў ім прывітанне.

— Калі пазней прыязджалі да нас работнікі іншых музеяў, дзівavaліся. Пыталі: *Што вы такога зрабілі?* Бо і яны пісалі касманаўтам, па 60, 80, 120 лістоў, і ніколі не атрымалі адказу.

У савецкім свеце касманаўты былі непахіснымі аўтарытэтамі. Можа таму, у 1977 г., за спадара Белакоза заступіўся старшыня райвыканкама. Ён дабіўся ў міністэрстве, каб КДБ пакінула Алеся Белакоза ў спакоі.

— Прыехаў да мяне начальнік КДБ і пытае: „Як вы жывяце?" Кажу: „Як вы арганізавалі, так і жыву". — „Алесь Мікалаевіч, мы вас чапаць не будзем". У той час не было такога, каб КДБ ехала і казала „не будзем чапаць".

Пытаю пра найбольш спрыяльны час для музея.

— Напэўна 1994 год, калі ішло адраджэнне. Але я не прасіў дапамогі. Мне хацелася, каб Беларусь не траціла сродкі на музей, а каб яна падымалася на ногі.

Зараз сітуацыя адмянілася. У школы вярнулася русіфікацыя. Нават у так званых беларускіх класах амаль усе прадметы выкладаюцца на рускай мове. Сам народ змагаецца за выжыванне. У мясцовым калгасе імя Карбышава на ферме зарабляюць па 7 мільёнаў рублёў, што ў рэальным свеце эканоміі складае 11,5 долара. А працаўнікі музея, людзі з вышэйшай адукацыяй, дастаюць 6 мільёнаў (10 долараў). Але беларускае тэлебачанне і радыё безупынна захвальваюць жыццё ў Беларусі. Паводле іх *мнения*, нідзе так добра не жывецца, як тут.

Алесь Белакоз усё ж верыць у будучыню сваёй краіны.

— Нас выбівалі стагоддзямі, — кажа на развітанне. — Аднак забіць нас немагчыма.

* * *

На памятку пабыўкі ў музеі бярэм па каменьчыку крэменю. Раней з захапленнем слухалі тут расказы пра цудадзейныя якасці гэтага мінералу. Запісалі нават рацэпт на крэмневую настойку. Ад крэмнію мацуюцца валасы, зубы, прападаюць злосныя хваробы, узбуджаецца праца мозгу. Мабыць, пад уплывам крэменю ў далейшай дарозе я думала пра Гудзевічы як пра беларускую Крэмніевую Даліну. Пра віртуальную цану, якую плаціць сусвету яшчэ адзін закаранелы абаронца нацыянальнага гонару.

І пра святога гуманіста, Францішка Скарыну.

*(працяг будзе)*

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Рэцэпт крэмневай настойкі

Каменьчыкі крэменю патаўчы на дробныя часткі, затым усыпаць іх у слоік і заліць сцюдзёнай вадой. Верх слоіка накрыць марляй або льняным палатном. Настой гатовы для прымянення пасля 7 дзён. Піць кожны дзень без абмежавання. Можна на настойцы рабіць гарбату. Крамяні можна заліваць шматразова.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Ася і Міхась у Гародні

У пачатку жніўня **Ася і Міхась Рамашкі** з Беластока пабывалі ў Гародні. Там пражываюць іхнія сваякі, бабуля, цёці, дзядзькі. На працягу тыдня нашы сябры знаёміліся са старажытным беларускім горадам. Ася, вучаніца другога класа III Агульнаадукацыйнага ліцэя, найбольш спадабала сабе раку Нёман. Міхась, дашкольнік польска-беларускага прадшколля ў Беластоку, як кожны мужчына, захапляўся мінімашынамі ў парку адпачынку. Ну, і яшчэ падабаліся яму коні ды мядзведзі ў заапарку. У Гародні цікавы заапарк, будучы ў горадзе сапраўды варта наведаць гэтае месца.

ЗОРКА

*Фота Галіны РАМАШКІ*



## Воўк, Змітрок, кабыла і баран

***(беларуская народная казка)***

Ішоў воўк з-пад Міра. Сустрэў Змітрака. Той Змітрок быў кравец. Ішоў ён з палкаю, што даўней мералі. Воўк кажа:

— Змітрок, Змітрок, я цябе з'ем!

А Змітрок адказвае:

— З'ясі, дык з'ясі! Але, перад смерцю, дай я табе змераю камізэльку!

Воўк згадзіўся. Змітрок і пачаў яму палкаю па баках мерацъ. Мераў, мераў, пакуль ваўка чыста збіў. Тады кажа:

— Пачакай жа! Камізэльку я змераў, але яшчэ ляж дагары, яшчэ паназначаю, дзе гузікі ўшываць!

Воўк яшчэ лёг дагары, а Змітрок яго наўсторч тою палкаю чыста скалоў, што не захацеў і есці воўк Змітрака. Змітрок астаўся жыць і пайшоў сабе далей. А воўк ляжыць ды думае: „Гм! Не з'еў дык не з'еў! Але нашто мне была камізэлька ды яшчэ ў два рады гузікі? Ці я пан, ці я шляхціц?..”

І пайшоў воўк далей памаленьку. Ідзе ды ідзе. Аж бачыць — ходзіць кабыла. Воўк і кажа:

— Кабыла, кабыла! Я цябе з'ем!

А кабыла адказвае:

— З'ясі, дык з'ясі, але нашто ты будзеш мяне есці? Ты вось лепш папытай у мяне пад капытам газету!

Воўк пачаў глядзець, а кабыла як гакне яму ў храпу нагамі, аж воўк адляцеў і ляжыць. А кабыла ўцякла. Ляжыць воўк ды думае: „Не з'еў дык не з'еў! Але нашто яшчэ было мне газету чытаць? Ці я грамацей, ці вучыцель?..”

Ачомкаўся воўк і пайшоў далей. Ідзе і ідзе. Сустрэў барана і кажа:

— Баран, баран! Я цябе з'ем!

Баран адказвае:

— Нашто ты мяне будзеш есці? Ты вось лепш заплюшч вочы, адкрый рот, а я табе сам ускочу!

Сеў воўк, заплюшчыў вочы і разявіўся. Баран як разагнаўся ды як даў яму рагамі ў лабаціну, дык воўк самлеў. Баран уцёк, а воўк ачомкаўся дый кажа:

— Не ведаю, ці я яго глынуў, ці мінуў?

## Польска-беларуская крыжаванка № 38

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы з наклееным кантрольным талонам дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 📖 | 📖 | Szosa | Sowa / Rząd | Syn | ▼ | Wystawa | ▼ | Silnik | ▶ | | Inny |
| Kula | Balonik | ▼ | ▼ | ▼ ▶ | | | | As | Miód | Ar | ▼ |
| Szacunek | ▼ ▶ | | | | | Mgła | ▶ | | ▼ | ▼ | |
| ▶ | | | | | | | | Okoń | ▶ | | |
| Rząd | ▶ | | | Banda | ▶ | | | | | 📖 | |

## Вершы Віктара Шведа

### *Запыталі Васю: у якім ты класе?*

Запытаў Валодзя Васю:
— У якім цяпер ты класе?
— Дружа, адкажу табе:
Я ў чацвёртым класе „б”.

— У чацвёрты ў прошлым годзе
Ты ж хадзіў, — сказаў Валодзя.
— У мінулым годзе я
Быў жа у чацвёртым „а”.

### *Уцякае думка*

— Ці табе, Валодзя,
Нават не сніцца кніжка,
Ці думка не прыходзіць
Каб павучыцца крышку?

— Прыходзіць думка часам,
Матуля дарагая,
Ды як жа часта з класа
Зноў раптам уцякае.

## Загадкі

Прыбег зубаты,
сеў каля хаты,
пытае ў брахала:
„Ці вырасла сала?”
Кажа брахала:
„Сала прапала”.
Пабег зубаты
галодны дахаты.
*(воўк)*

**Рафал ЛУКША**

## Начная прыгода

Цёмна. Вяртаюся з горада дадому. Іду з апошняга цягніка цераз лес. Чую гук самалёта. Выходжу на поле і гляджу ў неба. Свецяць Месяц і зоркі.

Раптам адна зорка ляціць да Зямлі. Перада мною стае вялікі жоўты дом на курыных нагах. Ад страху не магу зрабіць ні кроку. Адчыняюцца дзверы і выходзяць два высачэзныя мужчыны. Яны лысыя, вочы свецяць, як дзве вялікія бульбіны, без носа, замест рота — вузкая дзірачка.

— Мы прыляцелі з Марса. Хочам разрэзаць табе жывот і паглядзець, ці ўсё ўнутры здаровае, — гавораць і адразу хапаюць мяне за рукі.

Крычу і стараюся ім вырвацца. Не магу. Тады штурхаю іх у лыткі. Марсіяне падаюць.

— Вось што ім баліць, — думаю.

Уцякаю. Яны гоняць мяне і крычаць: „Не ўцячэш ад нас! Мы зараз зловім цябе, як рыбу ў сетку!”

Накідаюць на мяне сетку. Стараюся вырвацца, шарпаюся і шарпаюся. Яны смяюцца. Шарпануўшы з усяе сілы паляцеў я невядома куды і ўдарыўся моцна плячыма. Усюды цёмна. Няма ні зорак, ні Месяца, ні марсіян. Паўзу і мацаю, дзе я апынуўся. Урэшце ўбачыў маленькае святло. Падпоўз туды. Памалу ўстаў і прыглядаюся, а гэта акно ў маім пакоі! А бадай яго! Які кашмар мне прысніўся!

„ЗОРКА" № 38 19.09.1999

# Дарога да веры

Часам чалавек задумоўваецца над сваім жыццём, над смерцю. Можа не ў такой ступені, каб у сваім доме паставіць драўляную труну, але ўсё ж...

Маё паломніцтва на Украіну было чымсьці важнейшым, чым нармальная паездка за мяжу. Дзіўная справа — пад уплывам некалькіх хвілін чалавек можа зусім памяняцца! За адну ноч можа пасівець!

Я бачыла людзей, якія ў першую хвіліну мяне напужалі. Былі гэта апантаныя злым духам — беснаватыя людзі. Верашчаць яны, крычаць, калі пачуюць галасы царкоўных званоў на Спаса ва Успенскай лаўры ў Пачаеве.

У пэўную хвіліну я пачула крык. Каля царквы нікога не было, дык я пабегла на званіцу. Там таўпілася чарга людзей. А пазней я ўбачыла, што гэта закрычала жанчына, што галавой дакранулася да цудадзейнага звана. Адзін мужчына хутка адняў руку ад звана, быццам апёкшыся, і страшна закрычаў. Я хутка пачала сыходзіць са званіцы, молячыся за сябе і за іх. Бачыла яшчэ маленькую дзяўчынку, таксама беснаватую, якая на скуры каля вока мела выцарапаны малы крыжык. Пазней я ўсведаміла сабе, што не трэба іх баяцца, а толькі спачуваць ім, паколькі яны страшна пакутуюць. Наша экскурсаводка расказала, што ў мінулым беснаватых прыкоўвалі да ланцугоў і датуль білі, пакуль бесы не пакідалі хворага. Дзякуй Богу, сёння свяшчэннікі над імі толькі чытаюць малітвы.

Вялікае цуда праваслаўнай веры гэта мошчы праведнікаў. Манахі яшчэ за жыцця заслужылі на нябесную ступень. Пакорныя, добрыя, маліліся гадамі і памагалі іншым людзям — абяздоленым, няўдачнікам. Дарам бачання будучыні, гавення нячыстых сіл ратавалі жыццё не аднаму чалавеку. Іаў Пачаеўскі заслужыў вялікую хвалу. Яго мошчам можна пакланіцца, прасіць аб малітве да Бога. Рукі святога цёплыя, быццам жывыя — вось цуда праўдзівай веры! Каля мошчаў ігумена пячора, выдзеўбаная самім святым. Паломнікі мелі магчымасць туды ўлезці на карачках, паколькі пячорка вузкая, нізкая, з рэзкім спускам. Уражанне было незвычайнае!

Кіева-Пячэрская лаўра. Пра гэты манастыр не трэба многа расказваць. Заснавалі манастыр Антоній і Феадосій. Пячоры падзелены на дзве часткі — Бліжнюю і Дальнюю. Лабірынты цягнуцца 288 м. Сярод пахаваных там святых манахаў шмат затворнікаў, якія пры жыцці замуроўваліся ў келлях, каб задаваць сабе больш пакут, дзеля цярпення для Хрыста. Тут сярод святых нятленных мошчаў доўгія стагоддзі спачывала цела св. Еўфрасінні Полацкай.

У адзін дзень паломніцтва мяне праследавала няшчасце: я згубіла дарогу ў манастыр, не магла памяняць грошай, а пасля ўдарылася галавой аб лампадку каля іконы. Першы раз у жыцці я сябе сама міравала (бацюшкі ўжо не было, закончыў міраванне маслам з лампады). Я, як заўжды, прыйшла запозна.

Галоўны скарб манастыра гэта цудадзейныя іконы. Магчымасць пакланення некаторым з ікон — вялікае свята і гонар. У Белеўскім жаночым манастыры я пабачыла штосьці цудоўнае: ікона Божай Маці „Сысканне загінуўшых" у час малітвы запоўнілася благадатным мірам. Унутраная шыбка пахла анёльскім пахам. А ігуменне ўсіх нас пабласлаўіла знакам крыжа з трох пальцаў правай рукі. Я адчувала сябе вельмі добра і як большасць паломнікаў усю надзею паклала ў Госпадзе.

Калі чалавек раздумвае над сваёй будучыняй або мінулым, хоча памятаць добрыя хвіліны. Але, як сказала дарагая мне сяброўка, няшчасце (малое ці вялікае) спатыкае кожнага, а хвіліны духовай радасці памагаюць, суцяшаюць і збаўляюць.

Канец і Богу слава!

Дзякую бацюшку П. Шэшку і некаторым паломнікам за незабыўныя ўражанні і духовыя каштоўнасці.

**Аня САДОЎСКАЯ**



*Школьнікі з Рыбалаў у вясковай святліцы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Уладзімір АРЛОЎ**

# Адкуль наш род — апавяданні па гісторыі Беларусі

**Усяслаў Чарадзей — князь-чараўнік**

Князь Усяслаў — не толькі самы славуты з валадароў Полацкай дзяржавы, але і самы загадкавы. Летапісы кажуць, што ён нарадзіўся ад чаравання.

Нашы продкі склалі пра Усяслава багата легенд і былінаў. Яны верылі, што гэты князь мог ператварацца ў шэрага ваўка, у яснага сокала або ў тура з залатымі рагамі. У адным старажытным творы, які называецца „Слова пра паход Ігаравы", напісана, што Усяслаў Чарадзей спрачаўся з самім богам сонца Хорсам.

Шмат чаго казалі людзі пра Полацкага князя. З Кіева ён нібыта чуў, як у Полацку звоняць званы. Мог прадказваць будучыню. Мог, перакінуўшыся ў ваўка, за адну ноч абабегчы ўсю сваю дзяржаву.

Усе гэтыя быліны беларусы склалі таму, што Усяслаў сапраўды быў чалавек незвычайны: мудры, дужы і смелы. Ён часта трапляў у складаныя становішчы, але заўсёды ўдала выходзіў з іх.

**Сафійскі сабор**

У летапісах гаворыцца, што князь праліў шмат варожай крыві. Але большую частку свайго доўгага валадарання Усяслаў жыў з суседнімі княствамі ў згодзе і займаўся мірнымі клопатамі. Ён загадаў узвесці ў Полацку Сафійскі сабор, які вы, напэўна, ужо бачылі на малюнках і фатаграфіях. Сабор называюць Сафійскім, бо яго збудавалі ў гонар святой Сафіі. У перакладзе з грэцкай мовы гэтае імя азначае „мудрасць".

Велічны гмах на стромкім беразе ракі будавалі ўсёй грамадой. Гэта быў першы каменны храм у Полацку, а магчыма, і ва ўсёй Беларусі. Ён меў сем купалоў з пазалочанымі крыжамі. Знадворку храмы тады не атынкоўвалі і не бялілі, а таму сцены сабора былі не белыя, як сёння, а паласатыя: слаі цэглы і камянёў чаргаваліся са слаямі будаўнічай рошчыны.

Услед за будаўнікамі ў сабор прыйшлі мастакі. Яны размалявалі сцены казачна прыгожымі колерамі: залацістым, чырвоным, смарагдава-зялёным... З гэтых малюнкаў, што называюцца фрэскамі, глядзелі святыя ў багатым урачыстым адзенні. Падлогу майстры выклалі з рознакаляровых плітак, і яна была падобная на дзівосны кілім. З высокіх вузкіх вокнаў падалі снапы сонечных промняў. Са столі галоўнага купала пазіраў з фрэскі сам Ісус Хрыстос.

У Сафійскім саборы не толькі маліліся Богу. Палачане прымалі там замежных паслоў, абвяшчалі вайну і падпісвалі мір, захоўвалі бібліятэку, якую пачаў збіраць яшчэ князь Ізяслаў. Прымайстраваўшыся недзе каля ваконца, вучоны манах старанна выводзіў тут радкі Полацкага летапісу. Пад сценамі сабора гараджане збіраліся на свае агульныя сходы, што называліся вечам. Там вырашаліся галоўныя дзяржаўныя справы. Веча магло нават выгнаць князя.

На землях усходніх славянаў Сафійскія саборы, апрача Полацка, былі яшчэ ў Кіеве і ў Ноўгарадзе — у трох найбольш буйных і магутных гарадах. Полацкі сабор можна назваць сэрцам старажытнабеларускай дзяржавы.

Ворагі Беларусі няраз хацелі разбурыць яго. Сабор даваўся некалькі разоў перабудоўваць, і сёння ён зусім не такі, як пры князю Усяславе. На пакладзеным у парозе храма вялікім камені старажытныя будаўнікі напісалі свае імёны: Давыд, Тума, Мікула, Копысь... Гэты камень знайшлі археолагі, і ён стаў музейным экспанатам.

Цяжка ўявіць чалавека, які б не захапляўся прыгажосцю Сафійскага сабора. Палачане з любоўю называюць яго проста Сафіяй або Сафійкай, а пісьменнікі параўноўваюць з белым караблём, што плыве ў чыстым небе над Дзвіною.

***(працяг будзе)***

***Задача чытачу***

**Сябры! Прапануем Вашай увазе конкурс.**

Вашай задачай будзе размаляваць у выглядзе комікса гісторыю князя Усяслава Чарадзея. Самыя цікавыя малюнкі надрукуем, а аўтары атрымаюць узнагароды — каляровыя алоўкі. Усіх зацікаўленых конкурсам просім дасылаць працы на працягу трох тыдняў.

**ЗОРКА**

**Мажэна ЖМЕНЬКА**

## *Вочы*

Па шчацэ паплыла апошняя сляза
Наступная кропля роспачы
І ўтапілася ў акіяне жалю
Загінула як цень
Без вяртання
Па другой старане люстра слёз
Пабачыла яго вочы
Чорныя, таямнічыя...
Якія завалодалі яе душой
І адабралі найбольш каштоўны камень свету
Жыццё...

# Новы пачатак школы

Зараз я вучаніца Комплекса школ з беларускай мовай навучання, раней я была толькі ліцэісткай. Пішу пра гэта ўсё, бо мая школа з 1 верасня г.г. памяняла назву. У нашай школе пачала працаваць гімназія. На дзвярах нашай школы вісяць цяпер дзве шыльды. Папраўдзе, мы, ліцэісты, не надта ўцешыліся зменамі. А калі ў пачатку года пабачылі гімназістаў, думалі і не заўсёды разумелі што дзеецца. Думаю, што да новага трэба будзе навыкаць, каб з часам наяўнасць гімназіі не здзіўляла і не трывожыла.

**А. П.**

# Па слядах гісторыі




*Удзельнікі экскурсіі ў Майданку.*

Чаромхаўскі самаўрад акуратна ставіцца да спраў культуры і турызму. Прыкладам гэтаму можа быць дапамога ў арганізаванні экскурсій, якіх ініцыятарам выступае гурток Польскага саюза пенсіянераў.

25 жніўня г.г. 35 асоб паехала на экскурсію ў Люблін, Налэнчуў і Казімеж-Дольны. А пятай гадзіне раніцы шафёр Мікалай Кандрацюк забраў чатыры асобы з Вулькі-Тэрахоўскай, а затым заехаў за астатнімі ўдзельнікамі пад дом культуры. У 5.20 адправіліся мы ў падарожжа. Экскурсаводам у нас быў Яўген Давідзюк з Гайнаўкі, ураджэнец Чаромхі. Ён зразу ўзяў „палачку" ў свае рукі. Праязджаючы праз Жэрчычы, што ў Нурэцкай гміне, паказаў нам царкву з XVII стагоддзя. Значыцца, і вёска існуе з таго часу, бо тады будавалі храмы толькі на хутарах або ў вёсках. А ў Сямятычах звярнуў нашу ўвагу на шыкарныя дамы, што з правага боку пасёлка „Бруксэлька". Жыхары катэджаў працавалі ў Бельгіі, каб прыдбаць грошы на будову жылля.

Рака Буг раздзяляе Падляшскае і Мазавецкае ваяводствы. Захапляліся мы прыгожым краявідам даліны, ракой спавітай густой імглой. Першае мястэчка за Бугам — Сарнакі. У час апошняй вайны нямецкія вучоныя вялі даследаванні над новай зброяй — ракетамі V-1 і V-2. Вось адна ракета V упала каля Сарнакаў. Армія Краёва прыхапіла яе і пераправіла ў Англію, а там брытанскія навукоўцы расшыфравалі сістэму новай зброі. Дзякуючы гэтаму Лондан ацалеў. Гэтую падзею ўвекавечвае помнік у выглядзе ракеты, які стаіць зараз у Сарнацкім парку. На ім знаходзіцца двухмоўны надпіс (на польскай і англійскай мовах): „Яны зберaглі Лондан".

Праз Ласіцы праязджаем перад сёмай. Па дарозе мінаем прычэпу загружаную збожжам, фурманку з парасяткамі. Сяляне едуць на кірмаш. Непадалёк Ласіцаў узвышаецца мачта тэлевізійнага перадатчыка. Чатырыстаметровая антэна царыць над усёй аколіцай.

Не даязджаючы да Мендзыжэча-Падляшскага перасякаем брэсцкі тракт, шашу Варшава — Брэст. А зараз жа і сам горад. Гэта павятовы цэнтр. Мясціна прыгожая. Вуліцы скрываюцца ў зелені дрэў. Шыкарныя дамы. Зямля тут ураджайная, людзі жывуць у дастатку. Мінаем Канкалеўніцу і Жанкаволю. І тут відаць дастатак на кожным кроку: мураваныя дамы з чырвонай цэглы, тэлефонныя будкі гарадскога тыпу на вуліцы, шыкарнае пажарнае дэпо. Такім пейзажам і вобразам горада сустракае нас і Радзынь-Падляшскі. Наступны горад на нашым маршруце — гарадок Коцк з помнікам камандзіру арміі „Палессе" генералу Францішку Клеберу. На ім вырытыя словы: „Wieczna chwała obrońcom ojczyzny poległym w walce z hitlerowskim najeźdźcą w 1939 roku".

Любартаў — значыць, яшчэ паўгадзіны язды да Любліна. Гэты горад быў у час рэфармацыі арыянскім асяродкам.

Люблін прывітаў нас сонечным надвор'ем. Мы не спыняліся і адразу паехалі ў Майданак, дзе гітлераўцы пабудавалі канцлагер. Пабачылі мы там звычайнае поле, падзеленае на шэсць участкаў. Усё акуратна агароджана калючым дротам. На кожным участку стаяць дванцаць чатыры баракі ў двух радах. У бараку кватаравалася 120 вязняў (заўсёды было звыш нормы). Не было туалетаў, а толькі па адной лятрыне ў канцы барака. На вышках стаялі вартаўнікі. Падымаемся пад помнік — курган з астанкамі закатаваных. На ім скульптура праекта рускага мастака, з надпісам: „Los nasz dla was przestrogą". Пераходзім у крэматорыю. Аглядаем сваімі вачыма невялічкія газавыя камеры, у якія заганялі вязняў. Праз спецыяльныя дзіркі фашысты ўкідалі газ цыклон. У страшэнных мучэннях канчаліся людзі. Трупаў перавозілі спецыяльнай фурай у крэматорыю. Пяць печак працавала круглыя суткі. Гэтай работай займаліся спецыялізаваныя падраздзяленні СС. У адзін толькі дзень змаглі яны закатаваць у газавых камерах 18 тыс. чалавек. На працягу 1941-1944 гг. загінула ў Майданку 3460 тыс. людзей розных нацыянальнасцей, галоўным чынам яўрэяў. Ад пабачанага разбалелася сэрца. Такое захаваецца навечна ў памяці.

З Майданка адправіліся мы ў горад. Наведалі Люблінскі замак, касцёл, рынак і стары горад. Характэрнымі для касцёла з'яўляюцца тут візантыйскія малюнкі, што больш напамінаюць наведвальніку праваслаўную царкву, чым касцёл. Пасля больш двухгадзінных вандровак па горадзе адпраўляемся ў курортны Налэнчуў, у якім прабывалі два польскія пісьменнікі: Стэфан Жаромскі і Баляслаў Прус. Наведваем домузей Жаромскага. Будоўлю ў гуральскім стылі праектаваў пісьменніку архітэктар Віткевіч. У Налэнчаве пісьменнік жыў тры гады. Тут напісаў „Гісторыю граху", „Прадвесне" і іншыя творы. У невялічкім пакойчыку стаяць хатнія прылады і мэбля: стол, крэсла, канапа для адпачынку ды куфар для кніжак. Потым шпацыруем па цудоўным курортным парку. Заглядаем у павільён мінеральных вод, глытаем трохі халоднай вады з невялічкага фантана.

Апошні позірк на зялёны парк, памятны здымак на фоне фантана на сажалцы і далейшае падарожжа. Апошні наш этап — Казімеж-Дольны. У наваколлі Налэнчава і Казімежа захапіў нас маляўнічы пасляледавіковы краявід. Перад уездам у горад прыглядаемся славутым „спіхлежам", якія служылі за склады збожжа. Горад узнік на купецкім шляху, дзе асноўнай крыніцай даходу быў гандаль і сплаў збожжа па Вісле. У мінулым баржы падплывалі пад самыя свірны. З цягам часу дно ракі занясло мулам і цяпер Вісла тут павузілася на дзвесце-трыста метраў.

Атракцыёнам Казімежа-Дольнага з'яўляецца рынак са студняй. Непадалёк касцёл і камяніца Пшыбылаў, багацейшых купцоў. А ў далі відненюць развaліны замка і башты. Каб падняцца на яе верх, трэба прайсці сто семдзесят адну ступеньку. А калі ўжо гэта зробім, убачым непаўторны від — панараму наваколля, аддеглую на дзесяць кіламетраў. Час няўмольна нас паганяе, ногі дранцвеюць ад стомы. Вяртаемся ў аўтобус. Ужо са стаянкі кідаем апошні позірк на спакойную вячэрнюю Віслу і кіруемся ў напрамку Пулаваў. Адтуль ужо ранейшым маршрутам вяртаемся ў Чаромху.

Экскурсія прайшла ўдачна. За гэта належацца словы пашаны і шчырай падзякі арганізатарам, а перш за ўсё Чаромхаўскай гміне, якая не паскупіла грошай на аплату аўтобуса.

**Уладзімір Сідарук**

*Фота Тамары Кердалевіч*

# Фэст у Курашаве



Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

5 верасня ГП БГКТ супольна з Гмінай управай у Чыжах арганізавалі беларускі народны фэст разам з дажынкамі ў Курашаве.

Святкаванне пачалося багаслужбай. Святар Мікалай Грыгарук маліўся за працавітых земляробаў, якія сабралі плён са сваіх палеткаў. Пасля ў царкве адбылося пасвячэнне падрыхтаваных школьнай моладдзю дажынкавых вянкоў з Курашава, Збуча і Арэшкава. Пасвяціў вянкі святар з Чыжоў Іван Раманчук, ураджэнец Курашава. Выступіў ён з пропаведдзю на беларускай мове, што, на жаль, здараецца вельмі рэдка ў нашых праваслаўных храмах. Расказаў ён надта маляўніча пра цяжкое жніво ў міжваенны перыяд, калі сяляне жалі сярпамі і збіралі на пожні, каб не змарнаваліся, усе каласочкі. Была тады вялікая пашана аржанога хлеба, які ў вёсцы лічыўся вялікай святасцю. А цяпер, калі жнем камбайнамі, наша дзяржава мала цікавіцца скупкай свежага ўмалоту.

У трынаццаць гадзін, на падрыхтаваных лаўках на пляцы побач вясковай святліцы заселі хіба ўсе жыхары Курашава і прадстаўнікі навакольных вёсак. Спякота была неймаверная, што адразу самлелі бярозкі, якімі ўпрыгожылі пляц. Выступаючы на фэсце „прымак" Юрка Астапчук з невялічкай сцэнкі публічна скардзіўся, што яму па нагах пот сцякае.

Фэст адкрыў войт Чыжоўскай гміны Рыгор Мацкевіч, які прывітаў віцэ-консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Паўла Латушку з жонкаю і дачушкай, паслоў Сейма Сяргея Плеву з жонкай і Яна Сычэўскага, адначасова старшыню ГП БГКТ, старшыню Павятовай рады ў Гайнаўцы Вольгу Рыгаровіч, прадстаўніка страхавой фірмы „Поліса" ў Беластоку Мікалая Гулько з жонкаю, дырэктара Цэнтра кнігі і прэсы славянскіх народаў у Варшаве Яна Заброцкага, родам з Арэшкава і Віктара Шведа, паэта, ураджэнца Чыжоўскай гміны.

Затым Ян Сычэўскі адзначыў, што вялікімі намаганнямі, дзякуючы фінансавай дапамозе спонсараў, ГП БГКТ супольна з мясцовымі ўладамі штогод праводзіць у беларускім асяроддзі народныя фэсты, якія карыстаюцца зацікаўленнем насельніцтва.

Канцэрт павяла сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч. З нагоды дажынак прачытала яна верш Віктара Шведа „Камбайны", у заканчэнні якога сцвярджаецца:

Будзем праз хвілінку
Святкаваць дажынкі.

Першым на фесце выступіў жаночы калектыў „Арэшкі" з Арэшкава, які выканаў некалькі мясцовых народных песень. Цёпла быў успрыняты слухачамі курашаўскі калектыў „Незабудкі". Асабліва падабалася прысутным песня „Ты ж мэнэ пудманула", якую выканала кіраўнік калектыву Ніна Грыгарук са сваёй малой галасістай унучкай. Затым з вялікім поспехам выступілі „Прымакі" і „Збучанкі". Спявачак са Збуча падмяніў эстрадны калектыў „Капры", які ўвечары зайграў на танцавальнай вечарыне.

На заканчэнне выступіў вядомы калектыў „Чыжавяне" з Чыжоў, якім кіруе Міхась Яўхіменя.

Валянціна Ласкевіч падзякавала ўсім прысутным за ўдзел у фэсце, а спонсарам за фінансавую дапамогу ў яго правядзенні, асабліва Гміннай управе ў Чыжах. Падзякавала таксама за дапамогу Гміннаму асяродку культуры і дырэкцыі школы ў Курашаве. На фэсце Ян Заброцкі арганізаваў кірмаш славянскай кніжкі, даступнай толькі ў яго кнігарні.

Віктар Швед падпісваў на фэсце свае кніжкі. Прадаваліся тут таксама касеты з песнямі паасобных беларускіх мастацкіх калектываў Беласточчыны.

Пасля фэсту адбыўся супольны пачастунак для запрошаных гасцей, членаў мастацкіх калектываў і курашавян, якія прымалі ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемства.

**В. Ш.**

# Жыццё і дзейнасць Лукаша Дзекуць-Малея

*(працяг;*
*пачатак у папярэднім нумары)*

**Пасляваенны перыяд — белая пляма**

Не даючы веры адкрыццю на гданьскіх могілках, вярнуўшыся дахаты, раскрыла я Энцыклапедыю гісторыі Беларусі, каб праверыць, што напісана там пра Лукаша Дзекуць-Малея. Згаджаліся даты нараджэння і смерці, толькі не месца смерці. Энцыклапедыя падае, што памёр ён у ЗША. Дзе тут праўда? Ці магчыма тут сходнасць прозвішчаў? Адшукала я выразку з „Беларуса" з 1955 г., дзе А. Ш. (Антон Шукелойць) змясціў пасмяротны артыкул-успамін пра Л. Дзекуць-Малея. Пачынаецца ён словамі: „Кагадзе дайшла вестка, што 20-га студзеня 1955 году памёр Лукаш Дзекуць-Малей, ведамы беларускі пратэстанцкі грамадзка-рэлігійны дзеяч, ініцыятар і адзін з перакладнікаў Новага Запавету ў сучасную беларускую мову". Гай Пікарда з Лондана ў артыкуле „The Heavenly Fire" („Божым Шляхам", 1975, н-р 1-2) напісаў: „Pastor Dziekuć-Malej died in America in 1955..." уводзячы ў зман беларускіх гісторыкаў. Каб упэўніцца ў сваім адкрыцці, пазваніла я аўтарытэтнаму гісторыку Беларусі Юры Туронку. У адказ на мае сумненні пачула: „Што Лукаш Дзекуць-Малей памёр у Амерыцы, мала праўдападобна, ён жа па вайне быў у Польшчы, магчыма, памёр у Гданьску. Шукай слядоў".

Яшчэ раз вярнулася я да Энцыклапедыі гісторыі Беларусі: яшчэ сёе-тое ўспамінаецца пра перыяд акупацыі, але перыяд 1945-1955 гг. — проста белая пляма, нічагусенькі. Што мог рабіць апошнія гады гэты актыўны дзеяч і прапаведнік? Можа ў Гданьску асталася сям'я, можа нешта ведаюць у тутэйшай баптысцкай царкве, якая, дарэчы, знаходзіцца недалёка майго дому, па вуліцы Дамброўскага 11, у палове дарогі паміж маім домам і ўспомненымі могілкамі? У тэлефоннай кніжцы знайшла я прозвішча, адно-адзінае на ўсю кнігу. Адразу пасля Вялікадня (каталіцкага), у аўторак, пазваніла я Данілу Дзекуць-Малею. Аказалася, след добры. Дазванілася я да сына Лукаша Дзекуць-Малея, дамовілася на сустрэчу. Зараз жа пазваніла ў баптысцкую царкву. Нейкі мужчына, падняўшы трубку, звычайна адрэагаваў на маё пытанне наконт Лукаша Дзекуць-Малея і запрасіў наведаць збор і пабачыць машынапісную гісторыю гданьскай баптысцкай абшчыны „Historia Kościoła Chrześcijan Baptystów w Gdańsku 1946-1996", апрацаваную Уладзімірам Жултко. У канцылярыі прынялі мяне вельмі добразычліва, дазволіўшы пакарыстацца ўспомненай гісторыяй, ксераксам і камп'ютэрнымі данымі. Параілі скантактавацца з сынам і з аўтарам гісторыі. Пра Лукаша Дзекуць-Малея гаварылі, як пра быццам бы толькі што адышоўшага чалавека, вельмі ім блізкага і вядомага. Праўда, здзівіла я іх, што быў ён вялікім беларусам. Як пра такога ўпершыню ад мяне пачулі. Беларускія гісторыкі таксама не ведалі, што Л. Дзекуць-Малей пражыў з 1946 г. да смерці ў Гданьску, хаця ведалі пра тое баптысты з Беларусі.

Запрапанавалі мне кнігу Кшыштафа Бэднарчыка „Historia Zborów Baptystów w Polsce do 1939 roku", выдадзеную ў 1997 г. у Варшаве. Там сапраўды шмат здымкаў з Лукашом Дзекуць-Малеем, м.інш. на Беласточчыне (у Нараўцы), у Брэсце. Яго прозвішча як прэсвітэра Брэсцкай акругі згадваецца на 26 старонках. Яшчэ дапамагаюць мне камп'ютэрнай інфармацыяй: жонка Сэрафіна таксама памерла ў Гданьску, дзеці: Сэрафіна, нар. 13.03.1928 г., Альжбета, нар. 8.02.1929 г., Данель, нар. 6.04.1930 г. Усе дзеці ахрышчаныя былі 1 верасня 1946 г. у Бельску-Падляшскім.

Вывучыўшы гісторыю гданьскага збору, я даведалася, што Лукаш Дзекуць-Малей 16 сакавіка 1947 г. (справаздача для ўладаў ад 26.06.1947 г. падае 1 сакавіка) стаў прапаведнікам збору і акруговым прэсвітэрам у Гданьску. 13 ліпеня 1947 г. у моры ў Бжэзьне (квартал Гданьска) Л. Дзекуць-Малей ахрысціў адзінаццаць асоб, м.інш. і Уладзіміра Жултко. 30 сакавіка 1949 г. у зборы было 87 членаў і каля 300 асоб пад апекай збору. 31 сакавіка 1949 г. Л. Дзекуць-Малей быў адкліканы з пасады прапаведніка, праўдападобна, па стане здароўя, хаця далей актыўна дзейнічаў у супольнасці баптыстаў — апошні раз хрысціў 12 верасня 1954 г. Вераніку Рубацку і Ядвігу Макору.



*Духоўныя апекуны Гданьскага збору. Злева: Пётр Жултко, Лукаш Дзекуць-Малей і Яўгеніюш Сай (1946 год).*

Візіт ва Уладзіміра Жултко (г. нар. 1930) пашырыў гістарычную інфармацыю. Ягоны бацька, пасля рэпатрыяцыі з Вільні ў Гданьск, у студзені 1946 г. стаў прапаведнікам баптыстаў у Гданьску. У. Жултко памятае Л. Дзекуць-Малея яшчэ з Брэста. Асабліва запамятаў фільм пра Святую Зямлю, які паказвалі ў нядзельнай школцы. Пакінуў у ім незабыўнае ўражанне па сёння. У маі 1939 г. Жултко пераехалі ў Вільню, дзе Пётр, бацька Уладзіміра, стаў другім прапаведнікам у баптысцкім зборы. Уладзімір падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Прыехаўшы ў Гданьск Уладзімір сядзеў пры Дзяржаўнай рэпатрыяцыйнай управе і выпытваў, ці хто-небудзь з рэпатрыянтаў з'яўляецца баптыстам. Баптысты занялі сабе на збор былую евангеліцкую капліцу па вул. Дамброўскага 11 у Гданьску. Спадарства Жултко занялі вялікі дом у Гданьску, які стаў гасцінным домам для баптыстаў, якія прыязджалі ў Гданьск. Былі сярод іх выхадцы з Вільні, Глыбокага, Львова, цэнтральнай Польшчы. Таксама аднойчы з'явіўся Лукаш Дзекуць-Малей, блізкі знаёмы П. Жултко яшчэ з Брэста. Пэўны час жыў у Жулткоў. Л. Дзекуць-Малей, як акруговы прэсвітэр, часта выязджаў у іншыя зборы ў акрузе, якая выходзіла па-за межы тадышняга Гданьскага ваяводства. Часта наведваў членаў збору на ровары. „U nas w Gdańsku inaczej na niego nie mówiono, tylko «Dziadek», «Dziadziuś», może ze względu na brodę". Уладзімір Жултко вельмі добра памятае „Дзядка", перадусім як вельмі добрага чалавека. У хатнім архіве захаваліся здымкі з жыцця баптыстаў у Гданьску ў пасляваенныя гады. На многіх у цэнтры Л. Дзекуць-Малей. Урэшце здымкі тадышняга збору, выстаўленай у ім труны і пахавіная Л. Дзекуць-Малея. Ад У. Жултко атрымала я пасмяротныя ўспаміны пра Л. Дзекуць-Малея, апублікаваныя ў баптысцкім часопісе „Słowo Prawdy" (1957 г., н-р 5). М. Адлыжка так успамінаў пахавіны: „Kaplica zboru gdańskiego pokryta kirem. Nastrój smutku udziela się każdemu obecnemu. Rodzina zmarłego, prezbiterowie-wychowankowie, rzesze wiernych z różnych denominacji przyszli pożegnać ojca duchowego, duszpasterza i przyjaciela. Po żałobnym nabożeństwie w kaplicy ruszył powoli kondukt żałobny na miejsce spoczynku. Nienotowana ilość uczestników smutnej uroczystości i wieńce dobitnie świadczyły o przywiązaniu do niestrudzonego szermierza Sprawy Bożej (...). Kondukt żałobny przekroczył bramę cmentarną i oto stanęliśmy nad mogiłą, miejscem odpoczynku. Ostatnie pożegnalne przemówienia. Rzeczywiście, żegnaliśmy niestrudzonego bojownika Sprawy Chrystusowej, człowieka modlitwy, wiernego członka kościoła, członka Rady Naczelnej, duszpasterza, ojca rodziny i naszego brata. Tyle straciliśmy w jednej osobie i na raz. Była to ciężka i dotkliwa strata dla naszego kościoła, ale: «Błogosławieni, którzy umierają w Panu, bo odpoczywają oni od prac swoich, a uczynki ich idą za nimi». Tak, uczynki jego poszły za nim, gdyż ci wszyscy, którzy chociaż raz zetknęli się z nim, na pewno mile wspominają go".

*(заканчэнне будзе)*

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

# Як будаваўся беларускі ліцэй

**Пра здарэнні, якія спадарожнічалі ўзнікненню будынка Бельскага беларускага ліцэя расказвае Канстанцін МАЙСЕНЯ.**

У 1959-60-х гадах працаваў я дырэктарам будаўнічага прадпрыемства БЭП у Бельску-Падляшскім і грамадска займаўся арганізацыйнай дзейнасцю Беларускага грамадска-культурнага таварыства на тэрыторыі Бельскага, Гайнаўскага і Сямятыцкага паветаў. Жыў я тады на кватэры ў дырэктара беларускага ліцэя Яраслава Кастыцэвіча. Калі ў 1956 г. узнікла БГКТ, улады менавіта да яго звярнуліся з прапановай узначаліць мясцовае аддзяленне Таварыства, але ён заявіў, што яму цяжка будзе сумяшчаць грамадскую дзейнасць з прафесійнай і сказаў ім пра мяне, свайго кватаранта, які закончыў беларускую школу. Тады ў Павятовы камітэт ПАРП выклікалі мяне і заявілі, што існуе неабходнасць дапамагчы арганізаваць структуры БГКТ у павеце. Я прабаваў адмовіцца, але мяне настойліва пераконвалі, што новая арганізацыя патрабуе дапамогі. І я згадзіўся.

Пазней узнікла клапатлівае пытанне, якое выклікала польска-беларускі канфлікт у горадзе. Беларускі ліцэй размяшчаўся тады на другім паверсе мураванага будынка, на першым паверсе якога размяшчаліся польскамоўныя класы пачатковай школы, а беларускамоўныя класы гэтай жа школы — у старым драўляным будынку побач. Асветныя ўлады вырашылі перавесці ў мураваны будынак беларускага ліцэя пачатковыя класы з беларускай мовай навучання, а польскамоўныя класы перасяліць у драўляны будынак, інакш кажучы, зрабіць замену. Бацькі польскіх дзяцей вельмі гэтым усхваляваліся і разам з дырэкцыяй школы вырашылі гэтаму супрацівіцца, зрабіць забастоўку. На назначаны час у школьнай святліцы сабраліся незадаволеныя бацькі на сустрэчу з дырэктарам беларускага ліцэя Яраславам Кастыцэвічам, і заявілі, што не дазволяць перанесці дзяцей з мураванага будынка ў драўляны і будуць гэта адстойваць да канца.

Вечарам на кватэры Яраслаў Кастыцэвіч расказаў мне пра гэты інцыдэнт. Назаўтра патэлефанаваў старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Уладзімір Станкевіч, які загадаў мне, як старшыні Павятовага аддзела БГКТ у Бельску, склікаць пасяджэнне прэзідыума ПА БГКТ і паабяцаў сам прыехаць у Бельск. У школу з'явіўся ён з куратарам асветы. Я запрапанаваў Станкевічу ўзначаліць спатканне, але весці пасяджэнне старшыня ГП БГКТ даручыў мне. Памятаю, што на пасяджэнні прысутнічалі Артысевіч, Базылюк, дырэктар Кастыцэвіч. Справа выглядала так, што дырэкцыя пачатковай школы і бацькі настойліва патрабавалі пакінуць польскія класы ў мураваным будынку, а з другога боку неабходна было спалучыць беларускамоўныя класы пачатковай школы з беларускім ліцэем дзеля лепшай арганізацыі навучання.

Дыскусія ў ходзе сустрэчы членаў прэзідыума ПА БГКТ была даволі вострая. Куратар маўчаў. Старшыня Станкевіч падкрэсліў складанасць сітуацыі, якая амаль не давяла да кровапраліцця. Адзін з членаў прэзідыума заклікаў ваяводскія праваахоўныя ўлады зрабіць у Бельску парадак. Калі я папрасіў яго сесці, ён заявіў, што ў Беластоку напэўна ўжо ўсё вырашылі і старшыня з куратарам прыехалі сюды толькі дзеля таго, каб ад нас атрымаць адабрэнне. Скончыўшы выказванне, моцна ўсхваляваны, грукнуў дзвярыма і выйшаў. Чарговы прамоўца, вельмі заслужаны, 80-гадовы ўжо чалавек заявіў, што склаўшаяся сітуацыя прымушае беларусаў задумацца ці не звярнуцца да ўлад СССР з просьбай далучыць Беласточчыну да Савецкай Беларусі. Запанавала тады цішыня, а я не ведаў як далей павесці пасяджэнне ды звярнуўся да куратара з пытаннем: ці калі б пакінуць пачатковыя польскамоўныя класы ў мураваным будынку, то ці будзе магчымасць пабудаваць асобны будынак для беларускага ліцэя і беларускай пачатковай школы? Куратар адрэагаваў станоўча і заявіў, што кураторыя сфінансуе будову. Разыходзіліся мы з надзеяй на паспяховае вырашэнне праблемы будынка для ліцэя.

На другі дзень сабраліся мы шукаць пляц пад школьны будынак. Прадстаўнікі кураторыі, бельскіх павятовых улад, наш актыў, дырэктар Кастыцэвіч і я на легкавых машынах сталі аб'язджаць горад. Уладары павета прапанавалі нам месцы на акраінах горада: першае — пры шашы на Беласток, другое — пры выездзе ў напрамку Кляшчэль, на месцы сённяшняга шпіталя, трэцяе — за могількам пры шашы ў Боцькі. Усе прапановы нам не падыходзілі. Тады я папрасіў пад'ехаць на чыгуначны вакзал і адтуль павёў дэлегацыю ў напрамку Лысай горкі. Там я ўказаў на адзін пляц, але аказалася, што гэта надта падмоклая тэрыторыя, а ў рэчку, якая працякае паблізу, мясцовая рашарня спускае смярдзючыя сцёкі. Тады пайшлі мы далей і затрымаліся пры скрыжаванні вуліцы Міцкевіча з вуліцай 1 Мая. Там я папрасіў павятовага сакратара ПАРП падысці бліжэй пажарнага дэпо і запрапанаваў пляц, на якім сёння стаіць ліцэй. Сакратар і ўсе прысутныя падтрымалі мяне. Дырэктар Кастыцэвіч таксама выказаў задавальненне і заявіў, што калісьці на гэтым пляцы стаяла царква.

На наступны дзень падаліся мы ў Беласток афармляць справу будовы ў ваяводскага архітэктара. Дырэктар Кастыцэвіч забавязаўся за зімовы перыяд зрабіць тэхнічную дакументацыю. Дзякуючы выпускнікам белліцэя, якія працавалі ў ваяводскіх установах і праектных бюро, дакументацыя была тэрмінова распрацавана. Пасля была падпісана дамова паміж прадпрыемствам БЭП, якога я быў дырэктарам, і дырэкцыяй школы, а ўжо вясною будова пайшла поўным махам. Фундаменты рабочыя капалі рыдлёўкамі, бо грунт у гэтым месцы быў падмоклы. За месяц-два фундаменты былі гатовы, а да зімы будова будынка была начарна закончана. У наступным годзе былі выканаваны аддзелачныя работы і будынак быў здадзены ў карыстанне.

Новую школу жыхары горада ўспрынялі з задавальненнем. Такое вырашэнне задаволіла абодва канфліктуючыя бакі.

**Запісаў Віталь ЛУБА**

# Былі саветы

— Савецкае войска, якое прыйшло да нас у верасні 1939 года, нагадвала банду. Апранутыя абы-як, вінтоўкі насілі на шнурках, а коней мелі такіх, што ездакам ногі амаль па зямлі валачыліся. Адзін баец, пехацінец, схапіў мяне, упёр штык у плечы і гоніць. Прашу, каб не калоў мяне, бо баліць, а ён і слухаць не хоча. Прыгнаў мяне к камандзіру, а я прашу, каб адпусцілі мяне; я тут жыву, — кажу.

— Ступай дамой, — сказаў камандзір.

Прыход саветаў на нашу тэрыторыю ўспрымаўся з надзеяй і ў некаторых мясцовасцях ставілі ім прывітальныя аркі. Вынікала гэта з таго, што многія нашы людзі лічылі іх **сваімі** — праваслаўнымі. Аднак той пэўны пачатковы энтузіязм прытух, калі пачалі яны наводзіць свае парадкі. Напрыклад, старшынёю сельсавета ў Дубінах быў назначаны такі чалавек, які ледзь умеў распісацца. Усе справы афармляў там сакратар, а *председатель* толькі падпісваўся пад дакументамі, якіх не чытаў, бо гэтага не ўмеў. Аднойчы сакратар падсунуў старшыні пісульку, той размашыста падпісаў яе і пячатку яшчэ паставіў. А ў той пісульцы было прашэнне сакратара, каб схадзіць у туалет.

Пры санацыі працаваў я на чыгунцы і саветы, якія перанялі чыгуначныя дакументы ў дырэкцыі ў Вільні і ў аддзеле ў Ваўкавыску, зноў загадалі мне стаць на працу на чыгунку. Аднойчы мой знаёмы кажа мне: „Вазьмі бутэльку гарэлкі і закуску і пайдзі да камісара, то перавядзе цябе ў лепш аплачваемы разрад — замiж 180 будзеш зарабляць 240 рублёў”. Так я і зрабіў, узяў гарэлку і свойскую каўбасу і пайшоў. Выпілі мы ўжо крыху і камісар пытае мяне:

— Да якой партыі ты пры Польшчы належаў?

— Да ніякай.

— То добра, бо калі б ты належаў, то нашая ўлада цябе расстраляла б. І яшчэ адно табе скажу — толькі нікому гэтага не паўтарай! — і ў нас не пішыся ў ніякую партыю, бо тыя, што пасля нас прыйдуць, расстраляюць цябе. Сядзі ціха, рабі сваю работу і нікуды не высоўвайся.

Другі раз прыйшлі да нас саветы, калі гналі немцаў. У нашай леснічоўцы пасяліўся палкоўнік. Гутараць з бацькам і згаварыліся пра тыя мясцовасці, якія яны абодва добра ведалі. Такім чынам набралі да сябе даверу і палкоўнік кажа бацьку:

— Слухай, твой сусед далажыў мне, што ў цябе ёсць прыхаваны конь. Вазьмі ты яго выпусці да нашых коней, хай разам з імі будзе, а байцы будуць даглядаць яго.

Так мой бацька і зрабіў, а байцы тым часам, па загадзе нашага госця, тайком злавілі даносчыкавага каня і схавалі ў адзін з пакояў! Прыбег яго ўласнік да палкоўніка са скаргай, што яму конь прапаў. Палкоўнік яму адказвае, што нічога пра тое не ведае; каня таго салдаты даглядалі ў пакоі! Перад выхадам далей на захад, на фронт, палкоўнік кажа бацьку:

— Ідзі забяры свайго каня і прыхавайся з ім добра на нейкі час.

Бацька так і зрабіў, а салдаты вывелі таго даносчыкавага каня са схов шча, запраглі і паехалі.

Пасля вайны хадзілі ў нас савецкія агітатары і намаўлялі людзей перасяляцца ў Савецкі Саюз. Зайшоў адзін і ў нашу хату, а мы якраз выпівалі. Запрасілі мы і яго за стол. Выпілі да шчырасці і тады бацька пытае таго агітатара:

— Ты намаўляеш тут людзей, каб выязджалі ў Савецкі Саюз. А скажы так па шчырасці, ці варта туды ехаць?

— Я скажу, толькі вы гэтага нікому не паўтарайце: сядзіце ціха тут і нікуды не едзьце!

Усё ж такі знаходзіліся такія людзі, якія верылі ў савецкі дабрабыт. Забіралі ўсё сваё дабро ў поезд і ехалі. І ў маёй сям'і знайшоўся такі дзядзька. Заехаў транспарт у Баранавічы, там усім адабралі дабро, перасадзілі на другі поезд і завезлі ў Казахстан пад адкрытае неба. Там ноччу адны спалі, а другія вартавалі ад гадзюк, якіх там поўна было. Пажылі там так крыху перасяленцы, сабралі ўсё царскае яшчэ золата, якое некаторыя мелі, завезлі нейкаму чыноўніку і той даў дазвол на перасяленне ў Ружаны. Калі прыехаў раз да нас, гаварыў нам: чакаю ўсходу сонца з захаду, ад вас.

Быў у адной з вёсак *председатель* сельсавета, які ў верасні 1939 года наводзіў у нас савецкі строй. Меў ён жонку савецку, якая абяцала яму, што там таксама будзе чыноўнікам. Людзі яго адгаворвалі, гаварылі:

— Ты ж маеш толькі два класы польскай школы, хто ж там цябе куды возьме!..

Але ён не паслухаў і паехаў. У Баранавічах яго выгналі з поезда, перапранулі ў ватоўку і адправілі ў шахты ў Данбас. Жонка таксама паехала за ім, але там знайшла другога і яго кінула. Ён хацеў быў вярнуцца на радзіму, але *нельзя*. І ён у адчаі сказаў, што пад немцамі было ў дзесяць разоў лепш, чым пад саветамі. То яму адразу зрабілі суд і засудзілі на пятнаццаць гадоў лагера. Пакаранне адбываў ён у сваёй шахце; дванаццаць гадоў прасядзеў пад зямлёю, а на свет яго выпусцілі толькі пасля хрушчоўскай „адлігі”.

* * *

— Савецкае войска паказалася ў нас, калі мы ў полі бульбу капалі. Сусед кажа бацьку:

— Ідзем вітаць рускіх!

А бацька мой адказвае:

— Трэба пачакаць і пабачыць, ці варта іх вітаць.

Праз два дні прыехалі ў Ляўкова самаходы, сталі каля школы і давай заводзіць музыку з пласцінак. Песні прыгожыя, людзі пасходзіліся, слухаюць.

А неўзабаве потым пачалі новыя ўлады да працы выганяць. Спачатку каменне трэба было вазіць на калейку за Бярначчынай, а калі свой надзел вывезлі, тады назначылі чарговы: лес вывозіць. Мне тады было семнаццаць гадоў і назначылі мне 105 *фасметраў*, а бацьку майму — 50. Вывез я нейкіх 60 кубаметраў, калі мяне адпраўляюць у Альхоўку, каб там лес вывозіць. А я туды не хацеў, бо далёка ад дому. А на той час з'явіўся *председатель* з Крыніцы; тоўсты, на кароткіх нагах. Кажа на мяне:

— Давайте верёвку, вешать будем!

Людзі загаласілі, я таксама расплакаўся і ён адпусціў мяне. А бацька мой на другі дзень з'ездзіў у Нараўку, там жыд Каган брыгадзірам быў. Папрасіў яго бацька, каб мяне аставіць бліжэй дому.

— Добра, — сказаў Каган, — хай астаецца.

Ніхто не вызначаў, якія дрэвы рэзаць, не глядзелі, ці сухое, ці сырое — рэзалі жывую пушчу.

Арганізавалі калгас, якому адвялі найлепшую зямлю і сенажаці паміж Старым і Новым Ляўковам. Папісаліся ў той калгас такія гаспадары, што ніхто з іх нават бараны не меў. І майго бацьку таксама сталі намаўляць, бо бугая меў, а ў калгасе былі каровы, а не было быка.

У Ляўкове ладзілі забавы; ігралі гарманіст і два скрыпачы. Адзін з іх трымаў смык у левай, а другі ў правай руцэ. То мы смяяліся і падказвалі ім: „Хаця вачэй сабе не павыпорвайце”.

Важакамі на забаве былі сыны *председателя* і ягонага намесніка. Калі нейкі юнак чагосьці ім не падабаўся, то не пускалі такога на забаву.

Аднойчы летам бачым: ідзе хмара савецкага войска на захад. Пытаем іх, куды ідуць.

— На манеўры, — адказваюць.

А раніцай на другі дзень ішла ўжо вайна...

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Новы помнік



У Бельску-Падляшскім на скверы пры вуліцы Міцкевіча ў ліпені мінулага года ўзведзены быў помнік для ўшанавання 80-й гадавіны Незалежнасці Польшчы (1918-1998). Ініцыятарам пабудовы помніка быў Ян Радкевіч.

Працы пры ўзвядзенні помніка ўжо завершаны, але з'явілася праблема з добраўпарадкаваннем пляца вакол манумента. Для гэтай мэты, паводле Грамадскага камітэта пабудовы помніка, патрэбна немалая сума 60 тысяч зл. У гарадскім бюджэце такі выдатак не быў прадугледжаны, паколькі камітэт пабудовы тэхнічны праект добраўпарадкавання ўчастка вакол помніка прад'явіў Управе горада толькі 19 ліпеня г.г. Як заявіў віцэ-бурмістр Яўген Беразавец, улады горада бачаць патрэбу давесці пляц вакол помніка да парадку, але рашэнне аб змене плана выкарыстання бюджэтных сродкаў, пасля папярэдняга абмеркавання Управай горада, можа прыняць толькі Рада горада. Чаму ініцыятары будовы помніка так позна звярнуліся за дапамогай у магістрат? Мабыць, разлічвалі, што самі з гэтым справяцца, мяркуе віцэ-бурмістр.

Гарадскія радныя, якія сабраліся на сесіі 31 жніўня, па прапанове ўлад горада, адвялі з бюджэту 26 тысяч зл. на добраўпарадкаванне пляцоўкі вакол помніка. Затым фірма БЭП пачала ўзводзіць невысокі мур за помнікам і класці бетонныя пліты на плошчы 100 квадратных метраў. Ранейшую зелень заменіць цяпер бетонная пляцоўка. Апытаныя мною жыхары, якія назіралі за працай рабочых, аддавалі, аднак, перавагу зелені, кветкам і дрэвам, а не бетону, вакол манумента.

Афіцыйнае адкрыццё помніка прадугледжана на 17 верасня г.г.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



# Начная гутарка аб палацы

Пятніца, 3 верасня. Апоўначы на першай праграме тэлебачання распачалася гутарка „Начныя размовы” на тэму Палаца культуры і навукі ў Варшаве. Палац гэты — дар народаў Савецкага Саюза тады яшчэ брацкаму польскаму народу. У перадачы выступала многа людзей. Адны выказваліся за разбурэнне палаца, каб нават следу не было па камунізме. Сярод іх быў Яцэк Фэдаровіч, які ў тэлебачанні вядзе іранічныя „Навіны”. Іншыя прапанавалі так аббудаваць палац, каб не быў ён бачным з усіх бакоў. Трэцюю групу дыскутантаў складалі маладыя людзі і яны найразумней падыходзілі да справы. Яны прапанавалі некалькі варыянтаў карыснага вырашэння справы. Па-першае, каму Палац культуры і навукі перашкаджае, хай не глядзіць на яго і абмінае здалёк, бо наша дзяржава не такая багатая, каб такія будоўлі разбураць. Па-другое, калі Палац культуры нікому не патрэбны, то трэба ў ім заснаваць Музей камуністычнага руху і паказваць маладым усю праўду пра яго. Па-трэцяе, Палац культуры можна перадаць якой-небудзь вышэйшай навуковай установе, паколькі там і залы прасторныя, і вялікая плошча, так што без вялікай перабудовы і фінансавых затрат можна выкарыстаць яго для навуковай дзейнасці. На маю думку маладыя дыскутанты думаюць сур'ёзна і лагічна.

Палац культуры і навукі трэба ўшанаваць, паколькі гэта дар для нашай дзяржавы. Няхай ён стаіць на сваім месцы, як сімвал савецкага народа, які праліваў кроў асвабаджаючы нас ад нямецкіх захопнікаў.

**Мікалай Лук'янюк**

# Змарнаваная інвестыцыя

У Орлі практычна няма каналізацыі, затое ўжо сем гадоў працуе ачышчальня сцёкаў, якая з прычыны адсутнасці пастаяннага прытоку вадкіх забруджанняў выходзіць са строю. Ачышчальня была здадзена ў карыстанне ў снежні 1992 года. Да яе падключылі тады каналізацыйную сетку новазбудаванай школы. Аднак каб біялагічная ачышчальня працавала без перабояў, неабходна ёй пастаянная пастаўка адпаведнай порцыі сцёкаў, а такой колькасці школа не дае. Па гэтай прычыне пачаліся аварыі. Ад пачатку гэтага года не працуюць аўтаматычнае ўпраўленне і аэрацыйныя барабаны, у выніку чаго недастаткова ачышчаныя воды ўліваюцца ў рэчку. І хаця ў сёлетнім гмінным бюджэце на рамонт ачышчальні адведзена было 10 тысяч зл., да гэтай пары нічога не зроблена.

Падляшскі ваяводскі інспектар аховы асяроддзя, на аснове вынікаў праведзенага ў маі кантролю, загадаў устараніць аварыю да канца ліпеня.

— Да гэтай пары мы нічога не зрабілі, бо рамонт патрабуе вялікіх грошай, — тлумачыў на пасяджэнні самаўрадавай камісіі Гміннай рады 31 жніўня г.г. майстар-захавальнік Міраслаў Бало. — Па шасці гадах працы помпы прыйшлі ў непрыгоднасць, іншыя элементы ржавеюць. Былі ў нас прадстаўнікі фірмы „Калектар" і сцвердзілі, што нашу ачышчальню спачатку трэба перапраектаваць, а потым перабудаваць. Распрацоўка новага праекта каштуе 30 тысяч зл., а яго выкананне — 100 тысяч. Калі б гміна цяпер заказала перапраектаванне ачышчальні, тады яе перабудова магла б распачацца ў наступным годзе.

— Войт увесь час хваліўся ачышчальняй, а каналізацыю абяцаў падчас чарговых выбарчых кампаній, — сказаў старшыня самаўрадавай камісіі Аляксандр Шыманскі. — Замест будовы каналізацыі, якая павысіла б стандарт жыцця жахароў мястэчка і гарантавала б тэхнічную спраўнасць ачышчальні, войт на працягу васьмі гадоў будаваў толькі дарогі, нават тыя, якія цяпер пабудаваў бы павет.

Экалогія для арлянскага войта здаецца быць другараднай справай. Неачышчаныя сцёкі далей забруджваюць Арлянку, а біялагічная ачышчальня сцёкаў без поўнай каналізацыі мястэчка аказалася ўсяго змарнаванай інвестыцыяй.

**Міхал Мінцэвіч**

# Чаромхаўскае наваселле




Закончылася адна з каштоўнейшых інвестыцый у Чаромхаўскай гміне, — разбудова адміністрацыйнага будынка Гміннай управы. Кошт мадэрнізацыі — 1 мільён 300 тысяч. злотых.

Асноўным выканаўцам разбудовы было Бельскае будаўнічае прадпрыемства. Трэба адзначыць, што будаўнікі тэрмінова перадалі будынак у карыстанне, таму чыноўнікі мясцовай адміністрацыі змаглі ўжо ў чэрвені перасяліцца ў новыя памяшканні.

Каб аддаць належную пашану будаўнікам і шматлікім спонсарам, Рада гміны рашыла арганізаваць урачыстае адкрыццё і пасвячэнне аднаўленага будынка Гміннай управы.

Пятніца, 27 жніўня 1999 года. Вуліца Дзібуа, на якой знаходзіцца гміна, закрыта для аўтамабільнага руху. Паліцэйскія сочаць за парадкам.

Гадз. 13.00. З прывітальным словам выступае войт гміны Міхал Врублеўскі, які сардэчна вітае паважаных гасцей, у тым ліку паслоў Сейма Сяргея Плеву і Яна Сычэўскага, прадстаўнікоў Ваяводскай управы, Самаўрадавага сейміка, старасту Гайнаўскага павета і іншых — у спіску запрошаных гасцей было некалькі дзесяткаў асоб.

Пасля прамоўца коратка расказаў аб разбудове адміністрацыйнага будынка. Падзякаваў ён за падарункі, якія з нагоды „наваселля" паступілі ад многіх устаноў і прыватных асоб, а дырэктару Ваяводскага аддзялення банка ПКО ў Беластоку за тое, што дапамог у адкрыцці экспазітуры гэтай установы ў Чаромсе.

Цырымонію адкрыцця ўзначалілі старшыня Гміннай рады ў Чаромсе і дырэктары аддзялення ПКО з Беластока і Гайнаўкі. Затым святары праваслаўных прыходаў з Чаромхі-Станцыі, Кузавы, Зубач і каталіцкі пробашч з Чаромхі пасвяцілі будынак.

Запрошаныя госці сустрэліся яшчэ пры абедзе. Як пры такіх нагодах бывае, пра чаромхаўскі банкет (бо так абед назвалі некаторыя чарамшукі) загаварылі ў пасёлку. Казалі яны, быццам бы „выпіўку" арганізавалі з бюджэтных грошай.

А што на гэта гмінная адміністрацыя?

— Абвінавачваюць нас у чымсьці непраўдападобным, быццам бы мы падаткі іхнія прапівалі, — гаварыла пазней мне сакратар Гміннай управы Валянціна Кердалевіч. — Разбярыцеся самі: у год з падаткаў у гмінную касу паступае 200 тыс. зл. Каб пабудаваць гміну, нам спатрэбілася больш шасці гадавых даходаў. Грошы на разбудову і ўрачыстасць з нагоды перадачы будынка ў карыстанне прыдбалі мы з іншых крыніц.

**Уладзімір Сідарук**

*Фота Тамары Кердалевіч*

# Саламяныя вырабы Марыі Кісель



Ужо семнаццаты год Марыя Кісель з Палічнай (Кляшчэлеўская гміна) займаецца пляценнем вырабаў з саломы. Асартымент яе рукадзелля — гэта перш-наперш кошыкі, флаконы, скарбонкі, талеркі і падносы.

Саламяныя вырабы купляюць, між іншым, жыхары Беластока. Цяпер, аднак, пакупнікоў усё менш ды менш. Пакупнікі-аптавікі вырабы з саломы высылаюць у Вялікабрытанію і Нямеччыну.

У даволі вялікай вёсцы Палічна (100 дамоў) саламяныя кашы плятуць яшчэ ўсяго дзве асобы, у тым ліку адна з іх жыве па-суседску з Марыяй Кісель.

**(гай)**

*Фота Янкі Целушэцкага*

# Перапрашэнне

Прашу прабачэння ў спадара Лявона Тарасэвіча за надрукаванне інтэрв'ю з ім у „Ніве" № 36 ад 5 верасня 1999 года без папярэдняй аўтарызацыі.

**Наталля Грышкевіч**

# Пазнаёмімся

***Стройны Рак**, 38 гадоў, кавалер, гаспадар з вёскі з-пад Белавежскае пушчы, рамантычны, добрасумленны, пазнаёміцца з сімпатычнай, энергічнай жанчынай, якой не страшная новая Еўропа. Пісаць на адрас „Нівы".*

# Дарожныя інвестыцыі

У ліпені г.г. закончылі першую павятовую інвестыцыю за 121 тысячу злотых. У карыстанне здалі 1200-метровы адрэзак дарогі з Дубічаў-Царкоўных у Тафілаўцы, а таксама адрамантаваную дарогу з Альхоўкі ў Семяноўку ды з Кляшчэляў у Палічну.

У жніўні здалі ў эксплуатацыю асфальтаваную дарогу з Трывежы ў Ласінку (раней тут быў брук). На асфальт прыйшлося чакаць дзесяткі гадоў. А гэта ж важны шлях, які спалучае Гайнаўку з Бельскам-Падляшскім ды Гайнаўку з Беластокам. Па ім ездзяць аўтобусы ПКС. Пры ім знаходзіцца звыш дзесяці вёсак. Дарогі рамантавалі за павятовыя фінансавыя сродкі ды за грошы з гмінных касаў у Гайнаўцы, Чаромсе, Кляшчэлях і ў Нараўцы.

Зараз заканчваюць пракладку асфальту ды „польбруку" на вуліцы Ліповай у Гайнаўцы (вядзе яна да новапабудаванай бальніцы), на адрэзку ад вул. Баторыя да вул. Мілкоўскага. **(гай)**

# Неахайныя госці

У жніўні і верасні вельмі многа ў лясах грыбоў. Гарадскія госці прыязджаюць тады на аўтамашынах пацешыцца чыстым паветрам ды назбіраць грыбоў. Многія з гараджан так грабуць пазурамі ды кіёчкамі лясную падсцілку, што аж страх потым глядзець на месца, дзе раслі грыбы. Тое ж робяць таксама вяскоўцы, якія ходзяць у лес з дзіцячымі грабелькамі і варочаюць усё нібы сена. На жаль, лясныя ўлады не звяртаюць на гэта ніякай увагі. Гараджане пры нагодзе прывозяць у кузавах рознае смецце, бутэлькі, баначкі, абутак і ўсялякае шмоцце ды выкідаюць у лесе або пры лясных дарогах і дарожках.

Эколагі змагаюцца за чыстае паветра і чысціню ў лесе, а чалавек найбольш усяму пагражае і забруджвае сваё натуральнае асяроддзе. Варта, каб адказныя чыноўнікі лепей наглядалі за парадкам і парушальнікаў штрафавалі. **(мл)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



Галерэя „Ніўкі"

## «Еўрасаюз, як ты мне мілы...»

Фота Міхала МІНЦЭВІЧА



## Пра папкі

Падаўся я за трыдзесяць земель праведаць, што цікавага ў глянцавым свеце дзеецца. А там нічога цікавага: дэмакратыя, люстрацыя, апатыя. І нічога тады дзіўнага, што я паспяшаў у наступнае — менш экзатычнае — трыдзевятае царства. І там нічога новага. Тады ў трывосьмае, трысёмае, ..., трыдругое, трыпершае. І ўсюды і конь не валяўся, і кот не брыкаў. Тады я ў суседняе, найбліжэйшае, Папкістан, у якім жывуць папкуасы. Думаю: у адным царстве адны толькі шпіёны, у другім адны толькі разведчыкі, у трэцім адны героі, а там мо нейкі іншы цікавы народ.

Папкуасы не былі, як хто мог бы спадзявацца, хрэстаматыйнымі людаедамі: не спажывалі сваіх супляменнікаў дзеля пераймання іх спажывецкіх, духовых ці нават эзатэрычных вартасцей. Найбольш відныя прадстаўнікі папкуасаў адно толькі заўзята грызлі сваіх найбліжэйшых аднадумнікаў, хаця ў народзе час ад часу з'яўляліся і вегетарыянцы. Імператывам гэтых слядоў адлеглага ў часе канібалізму быў грамадскі строй Папкістана.

Папкістан быў своеасаблівым фундаменталіскім дзяржаўным фарміраваннем, у якім фармальныя законы вывodзіліся, згодна заявам перадавых папкуасаў, з Пісання. Фармальная літара закона была аднак, як фігавы лісток, нежыццядзейным экспанатам дзеля паказу навонкі. Сапраўдным жа вызначальнікам грамадскага жыцця Папкістана былі папкі.

Папкі не былі, як мог бы нехта прасцяцка падумаць, малымі партрэтамі з выявамі папы. Не былі яны таксама лістоўкамі з паведамленнямі інфармацыйнага агенцтва папкуасаў. Тэарэтычна былі гэта кардонныя вокладкі, між якія павінны былі быць пакладзены фундаментальна важныя Папкістану звесткі пра кожнага папкуаса. Аднак улічваючы фундаментальнае значэнне тых звестак, ахоўваліся яны атрадамі спецназа і на практыцы знаёміцца з тым іх зместам маглі толькі спецжрацы, якія з таго зместу нічога цікавага народу не абнародавалі і нават складвалася ўражанне, што папкі — гэта не рэальныя прадметы, толькі эфемерныя прывіды. Агульна было вядома, што той змест маецца да рэальнасці так, як п'яны да плота.

Хаця Папкістан кіраваў для аховы папак свае перадавыя сілы, усё ж такі змест іх прасочваўся ў нежаданым напрамку, прычым тым зместам папкуасы амаль не цікавіліся. Вялікія страсці выклікаў у іх затое той факт, што нехта быў у папку занесены. Раней, калі ўсе папкуасы састаўлялі адзін толькі сялянска-рабочы клас, у папкі былі занесены толькі найбольш адсталыя марадзёры грамадства, якія мелі сваякоў у ЗША або ФРГ. Сёння ж настала эпоха эгалітарызму і ў папкі занесены тэарэтычна ўсе. І хаця былі занесены ўсе, вестка пра відзежнае існаванне чыёй-небудзь папкі скідала яе ўвасабленне ў грамадскую бездань. Пападанне ў тую прорву было адмысловай прывілеяй лёсу, бо нават шматлікія заганы разам з найбольш недарэчнымі захадамі не гарантавалі іх уладальніку месца ў грамадскай амнезіі папкуасаў.

У трыпершым, трыдругім і г.д. царствах асноўнай крыніцай жыццёвых працэсаў было харчаванне цалкам матэрыяльнай ежай, напр. чыпсамі, агуркамі ці базарнай гарэлкай. У Папкістане ж першаасновай вітальнасці, якая на мове папкуасікаў называлася *papki*, былі папкі.

**Адам МАНЬЯК**

Фрашкі пра нашых

### На слых

Слухай, сябра, што гаворыш, бо слухаюць людзі,
Асабліва калі запіс на магнітафоне будзе,
А пасля народ чытае, бо яму цікава
(А калі не вельмі — то народу справа),
Бо калі ўжо ты не ёсць „прыватная асоба",
Будзь ласкавы пекна мовіць і не сыпаць ё...у,
Вер у тое, што разумнае людзі зразумеюць,
Бо народ у нас талковы і дурняў не клеіць.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. вузкая паласа зямлі, ускапаная на агародзе, 4. размах, 6. устройства для газіравання пітной вады, 7. на канцы грэчаскага алфавіта, 9. правы прыток Волгі, 11. сумесь, 12. любіцель збіраць ягады, 13. частка сцэнічнага твора, 15. каштоўнасці ў лік будучых плацяжоў, 17. тонкі вусік на коласе ячменю, 18. свойская жывёліна, якая па сваіх якасцях вызначаецца рэкорднымі паказчыкамі, 19. пасярэдзіне цырка.

**Вертыкальна:** 1. напр. Біл Клінтан, 2. вершаваная аповесць Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, 3. хлусня, 4. збудаванне для масавых відовішчаў, у якім месцы для гледачоў узвышаюцца паўкругам, 5. запаленне апендыкса, 6. металічная ручка сундука, 8. смярдзючае злучэнне азоту з вадародам, 9. даўгахвосты папугай, 10. радок „Карана", 14. між тэрцэтам і квінтэтам, 16. адасобленае рэлігійнае аб'яднанне, 17. горад на поўначы Чылі.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 32 нумара**

**Гарызантальна:** ікра, фураж, раліст, шпег, завод, астрог, дзялянка, Гаваі, нагрузка, Баграмян, лаўка, Ліверпул, намяло, пядзя, клін, хадулі, ікона, соты.

**Вертыкальна:** булава, парода, кувальня, арган, пліта, устой, дзівасіл, скуралуп, губа, вага, Азоў, дача, анархіст, Аляска, Казань, Нарач, лятун, вокіс.

Рашэнне: **Ян Тарасевіч.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Надзеі Сцяпанавай** з Віцебска.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Што робіць у Польшчы беспрацоўны?
— П'е.
— А калі не п'е?
— Бярэцца за бізнес.
— А што робіць беспрацоўны міністр?
— Засноўвае палітычную партыю.

* * *

Калгаснік вярнуўся з Масквы і расказвае сваім землякам:
— Стаяў я цэлы дзень у чарзе на Чырвонай плошчы.
— І што купіў?
— Нічога, бо калі ўвайшоў у сярэдзіну, аказалася, што прадавец ужо памёр.

* * *

— У доме маіх бацькоў перад кожнаю ежай гаварылі малітву.
— А ў нас не: мая мама ўмела варыць.

* * *

Размова маладажонаў:
— Хто сёння будзе наглядаць за дзяцьмі: твая маці ці мая?

* * *

Маладому сужонству нарадзілася чарговае дзіця. З віншаваннямі прыбывае сябра:
— Маю надзею, што гэта хлопчык!..
— Не, — уздыхае бацька, — зноў дзяўчынка.
— Памыліўся я, але, прызнаеце, быў блізка ісціны.

* * *

— Ведаеш, сябра, бяда ў мяне, пастаяннае безграшоўе: мушу ўтрымліваць сына і дзве жонкі.
— Дык жа ў цябе толькі адна жонка...
— У мяне адна, але і сын ажаніўся.

* * *

Спатканне двух сяброў:
— Што чуваць?
— Яшчэ не ведаю; калі выходзіў з дому, цешча яшчэ спала.

* * *

Спатканне двух сяброў:
— Такое няўдзячнасці яшчэ свет не бачыў! — заяўляе адзін.
— А што здарылася?
— Уяві сабе: перад Вербніцаю купіў цешчы новыя зубы, а ў Вялікдзень яна мяне тымі зубамі пакусала.

* * *

Парцье ў прыёмнай гасцініцы пытае маладажонаў:
— А каторай гадзіне загадаеце вас будзіць?
— А першай, трэцяй і пятай.